# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №29 (239) 23 — 29 ліпеня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


Ах, які б мог атрымацца парадны партрэт! У віноўніка падзеі для гэтага ёсць усё: званні (зусім нядаўна яго абралі яшчэ і акадэмікам), узнагароды, пасады, прэміі, шырокая вядомасць не толькі ў родным краі і падаспелая нагода — 60 гадоў. Але чамусьці не хочацца мне пісаць такі партрэт.

... Прыгадалася, як гадоў трыццаць таму ехалі мы з Леанідам Левіным на дабітым "Запарожцы" ў "Хатынь", якая толькі "будавалася", як стаялі пасярод зацярушанай снегам забітай і адроджанай у помніку вёскі, і як ішоў да нас вузкай пратаптанай сцяжынкай ад далёкага лесу стары чалавек у валёнках, каля ягоных ног, быццам агонь-скакунок, круціўся руды сабака... Цяжка перадаць пачуцці, што выклікалі гэтыя постаці — такія звычайныя, такія звыклыя — тут, у гэтай Хатыні. "Камінскі..." — сказаў Леанід. (Яшчэ жывы — не бронзавы, з мёртвым сынам на руках...)

Дзесьці злева зазвінеў звон. Ён званіў адзін сярод комінаў-шкілетаў, сярод лагойскіх лясоў, адзін на ўсёй Беларусі, на ўсёй Зямлі! Трыццаць секунд... Другі зазвінеў над нашымі галовамі. Трыццаць секунд... Як удары сэрца. Чацвёрты! Над усёй зямлёй! Дванаццаты... дваццаць першы... дваццаць шосты! Цішыня...

Мы ні пра што не гаварылі з Камінскім, не распытвалі — пастаялі разам, пакуль не адзванілі званы. Сабака неспакойна круціўся каля нас.

Калі машына выбралася на шашу, хатынскія званы, што маўчалі дзесяць хвілінаў, забілі зноў. Адзін... Два... Тры... Як удары сэрца.

*(Заканчэнне на стар. 8)*



## НЕПАРАДНЫ ПАРТРЭТ

**Зацемкі з нагоды юбілею**

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# БЕЛАРУСЬ — ТУРЦЫЯ

**На гэтым тыдні адбудзецца афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Турцыю. Спадзяемся, што гэты візіт паспрые наладжванню больш цесных культурных стасункаў між нашымі дзяржавамі.**

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь ТАНСУ АКАНДАН:**

"Самыя добрыя словы я магу сказаць пра Беларусь, пра вашых людзей. Яны здолелі назапасіць і зберагчы за многія гады глыбокую культуру. На працягу стагоддзяў людзі ў гэтым рэгіёне вельмі пакутавалі. Ваша краіна заўсёды знаходзілася на скрыжаванні тых мэтаў, якімі кіраваліся розныя краіны. Выпрабаванні прыносяць сталасць, і людзі назапашваюць больш вопыт. І гэта ўжо пранікае ў характар альбо ў прыроду чалавека. Звычайна знешне гэта непрыкметна, гэта можна толькі адчуць. Зразумець жа гэта цяжка... І тут, на беларускай зямлі гэта вельмі выразна бачна. Людзі вашы вельмі адкрытыя да знешняга свету, бо яны па характары сваім такія. Шчыра кажучы, мяне гэта вельмі ўразіла, бо я лічыў, што павінны забыцца доўгія дзесяцігоддзі таталітарнага кіравання. У высокаразвітых прамысловых краінах вы не сустрэнеце такой гасціннасці. На Беларусі дастаткова развіты прамысловы ўзровень, высокая тэхналогія вытворчасці, але тым не менш — народ тут надзвычай гасцінны. Мудрасць, адкрытасць, гасціннасць — асноўныя рысы вашай нацыі. Гэта вельмі блізка турэцкаму народу. І гэта нас яднае".

*(З інтэрв'ю газеце "Культура")*



# МЫ ТАМ ЗНАЙШЛІ ЦУДОЎНАГА СЛУХАЧА



**У гутарцы з карэспандэнтам "Культуры" галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча, рэктар Беларускай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец дзеліцца сваімі ўражаннямі аб гастролях у Турцыі.**

**— Скажыце, якія найбольш яркія ўражанні засталіся ў Вас аб той паездцы?**

— Я лічу, што ў свой час пасольства Турцыі, пасол гэтай краіны Тансу Акандан вельмі зацікаўлена аднесліся да двух вядучых калектываў Рэспублікі Беларусь: Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча і Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча. Пры падтрымцы Міністэрства культуры і ўжо згаданага пасольства Турцыі ў 1993 годзе мы былі запрошаны на фестывальныя канцэрты ў Анкару. Павінен сказаць, што сама паездка была вельмі цікавай. Мы праехалі Украіну, Румынію, Балгарыю. У Анкары адбыліся два канцэрты ў цудоўнай зале, прыблізна на дзве тысячы чалавек. Мы былі выдатна размешчаны, нас цёпла сустрэлі. Выступленне праходзіла па-за межамі фестывалю, і, магчыма, сам глядач і слухач быў недасведчаны. Вы ведаеце, што падрыхтоўка да фестывалю робіцца загадзя, праводзіцца рэклама. А мы прыехалі ў ролі нечаканых гасцей. У першы вечар выступаў аркестр імя Жыновіча, у другі — хор імя Цітовіча. Калі ў першы дзень зала была запоўнена прыблізна на дзве трэці, то на другі дзень зала была ўжо літаральна біткам забіта. На жаль, мы выступалі толькі два вечары. Калі сказаць, што нас прымалі проста сардэчна і цёпла — гэта нічога не сказаць. Прыём быў настолькі гарачы і нечаканы, што нават выклікаў здзіўленне. Я лічу, што ў гэтыя два фестывальныя дні мы паказалі квінтэсенцыю беларускага музычнага мастацтва — інструментальнага, вакальнага, харавога, танцавальнага. І першы і другі дзень прайшлі з вялікім поспехам. На другі дзень нас здымала турэцкае тэлебачанне. На жаль, з таго часу прайшло тры гады і больш такіх ініцыятыў не было. Калі мы вярталіся назад, давалі канцэрт у Бухарэсце. Гэтая паездка вельмі запомнілася, яна была творча вельмі ёмкая, пакінула вялікае ўражанне і ў артыстаў, і ў тых, хто нас слухаў. Цяпер у гэту краіну едзе прэзідэнт, і я думаю, што мы тады былі першымі творчымі пасламі. Турэцкія слухачы зразумелі беларускую песню, танец, інструментальную музыку. У іх выклікала здзіўленне віртуозная ігра на цымбалах, майстэрства нашых баяністаў. Кожны нумар ішоў на біс. Таму засталіся самыя прыемныя ўражанні.

**— Ці завязаліся ў Вас падчас гастроляў творчыя кантакты, якія турэцкія калектывы Вы б хацелі бачыць і чуць у нас?**

— У нас была вельмі насычаная канцэртная праграма. Гастрольнае жыццё — гэта раніцай рэпетыцыя, адпачынак і вельмі цяжкі канцэрт. Я ведаю, што яны маюць цудоўны сімфанічны аркестр, іншыя творчыя калектывы. Турцыя славіцца сваімі галасамі, цудоўнымі здабыткамі на музычнай ніве. Народ гэтай краіны добра ўспрымае еўрапейскую музыку, еўрапейскую культуру, ім блізкая аўра гэтай музыкі. Там працаваць цудоўна. Вельмі хачу, каб у адказ на наша выступленне на Беларусі выступілі турэцкія калектывы.

**— А якое ўражанне склалася ў Вас аб самой краіне?**

— Гэта цудоўная і прыгожая зямля, вельмі своеасаблівая. Хоць гэта і не Еўропа, але краіна — еўрапейская па ўзроўні цывілізацыі, культуры. Я памятаю, як нас усправалі. Ёсць пэўныя музычныя нюансы, дзе правярaецца, які слухач, наколькі ён падрыхтаваны, наколькі адукаваны. Мы там знайшлі цудоўнага слухача. Цяпер я сустракаюся з Тансу Аканданам, як з вельмі блізкім для мяне чалавекам. Ён аднёсся вельмі зацікаўлена і па дзелавому да сваёй справы, калі паказаў два такія вялікія калектывы ў сваёй рэспубліцы.

**Лесь ТУР**

# "ЗАЛАТОЕ ЯЙКА" ХАКАНА АЗКАЙЯ

Без сумнення, Міжнародны конкурс маладых выканаўцаў папулярнай песні на "Славянскім базары" — падзея найгалоўная. Шлях у вялікую эстраду, прызнанне публікі, далейшыя творчыя перспектывы — вось далёка не поўны пералік таго, што дае лаўрэацтва на цяпер ужо вядомым у Еўропе і, без перабольшання, прэстыжным песенным спаборніцтве ў Віцебску. Ці не сведчыць пра гэта той факт, што на "Славянскі базар" пасылаюць сваіх маладых, таленавітых спевакоў і краіны, так бы мовіць, неславянскага паходжання: Германія, Літва, Францыя, Грузія, Турцыя?..

Менавіта абаяльны, тэмпераментны, прыгожы спявак з Турцыі ў першы ж свой выхад на сцэну віцебскага амфітэатра прымусіў залу не толькі расслабіцца, суперажываць яму, канкурсанту, але і крычаць "брава!.." І глядацкія эмоцыі, якія для журы — не асноўны аргумент, у дадзеным выпадку супалі з аб'ектыўнымі "эмоцыямі" высокага арбітражу. У выніку — першая прэмія і званне Лаўрэата Міжнароднага конкурсу, прыз "Залатое яйка", а таксама — шэсць тысяч долараў ЗША!



"Канкурсант з Турцыі Хакан Азкайя — спявак з выдатнай галасавой фактурай, артыстычны выканаўца, — сказала член журы выдатная балгарская спявачка Йардана Хрыстава. — Усё тое, што ён прадставіў на конкурс, было, як кажуць, на ўзроўні, прафесійна зроблена. Да таго ж, Хакан цудоўна кантактуе з публікай, знешнасць у яго эфектная, сцэнічная. Так што нездарма ён вельмі спадабаўся "Славянскаму базару", меў поспех і сярод слухачоў, і сярод членаў журы".

Што ж, яйка, як у казцы, не простае, а залатое. А гэта значыць — Хакана Сулеймана Азкайя апякуюць Зоркі!

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

*(Аб праблемах і набытках "Славянскага базара" чытайце ў наступным нумары "Культуры").*

# У КАГОРЦЕ НАРОДНЫХ І ЎЗОРНЫХ — ПАПАЎНЕННЕ

За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прысвоіла наступныя ганаровыя званні:

**"НАРОДНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ"**

— тэатру-студыі "Раёк" Брэсцкага абласнога Цэнтра маладзёжнай творчасці;
— фальклорна-этнаграфічнаму гурту Рачыцкага сельскага клуба Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці;
— сямейнаму клубу "Вернасць" Малоткавіцкага сельскага Дома культуры Пінскага раёна Брэскай вобласці;
— фальклорнаму клубу "Кругаверць" Лепельскага раённага Дома культуры Віцебскай вобласці;
— аматарскаму аб'яднанню "Сучаснік" Верхнядзвінскай раённай бібліятэкі Віцебскай вобласці;
— студыі эстраднай песні "Святлана" Лепельскага раённага Дома культуры Віцебскай вобласці;
— фальклорнаму гурту Ахонаўскага сельскага клуба Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці.

**"УЗОРНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ"**

— аркестру народных інструментаў дзіцячай музычнай школы № 1 г.Брэста;
— літаратурнаму аб'яднанню "Верасок" Дома піянераў і школьнікаў Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці;
— харавому калектыву Барысаўскай дзіцячай музычнай школы Мінскай вобласці;
— хору хлопчыкаў "Саловушка" сярэдняй школы № 133 г.Мінска;
— хору дзіцячай музычнай школы № 2 імя Аладава г.Мінска;
— студыі выяўленчага мастацтва Аб'яднання пазашкольных установ Савецкага раёна г.Мінска.

Калектыў газеты "Культура" шчыра віншуе самадзейных артыстаў з заслужанай адзнакай і зычыць далейшых творчых поспехаў.

У 1910 годзе флатыліяй па Дняпры з Кіева ў Воршу, а затым у Полацк перавозіліся святыя мошчы Еўфрасінні Полацкай. У Рэчыцы быў зроблены прыпынак. На месцы прыпынку святыні пачался будаўніцтва царквы Еўфрасінні Полацкай. А ў 1912 годзе, калі высвячалася пабудаваная царква, прынеслі ў храм для хрышчэння нованароджаную. Дзяўчынку ў гонар высвячэння царквы і назвалі тады Еўфрасінняй.

У 30-я гады царква ў Рэчыцы была зруйнаваная. Ужо дарослая тады Еўфрасіння Аўсяннікава паспела ўратаваць царкоўныя абразы і зберагчы іх. Усё спадзявалася яна на адбудову царквы. І гэта здзейснілася, праўда, праз 60 гадоў.





Адбудавалі царкву Еўфрасінні Полацкай непадалёк ад былога месца ўжо два гады таму. Ды вось толькі не паспела жанчына перанесці абразы ў новую царкву. Ужо і будаўнічыя працы заканчваліся, калі да Еўфрасінні Аўсяннікавай забраліся зладзеі. Абразы зніклі. Але сёе-тое з царкоўнага начыння захавалася. І яна аднесла яго ў новую царкву. У царкве Еўфрасіння бывае вельмі часта.

*На здымках: Еўфрасіння Аўсяннікава ў новай царкве ў вёсцы Азёршчына; на месцы часовага прыпынку святыні па дарозе ў Полацк у Рэчыцы збудаваны велічны помнік-капліца Еўфрасінні Полацкай.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА**

## ВІНШУЕМ!

*Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь начальніку ўпраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама А.Р.Маісеенку нададзена ганаровае званне "Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь". Наша газета нядаўна падрабязна расказвала пра гэтага цікавага чалавека, таленавітага арганізатара, спецыяліста сваёй справы ("Культура", № 23, 1996 г.).*

*Шчыра віншуем Алега Раманавіча з заслужанай узнагародай і зычым далейшага плёну на культурнай ніве Гомельшчыны.*

"КУЛЬТУРАЎЦЫ"

ПАД НІЗКІМ НЕБАМ

# ТРЫ ІНТЭРВ'Ю

**Уладзімір Данілавіч МЕЛЬНІКАЎ, загадчык раённага аддзела культуры Веткаўскага райвыканкама:**

**— Як жыве культура раёна?**

— На сённяшні дзень аддзел вінны дваццаці пяці арганізацыям 443,5 мільёна рублёў. Раней нашае фінансаванне было мэтавым. Сёння ж яно складаецца з мясцовых і агульнадзяржаўных грошай. Ніводнай капейчыны з другой часткі мы не атрымалі. Палова з двухсот работнікаў культуры не атрымалі заработную плату за люты.

Нашы людзі ў клубах, музычных школах і бібліятэках дзеля выжывання ўвогуле былі пераведзеныя на ўдвая меншыя аклады, а ўлетку аклады былі паменшаны ў тры, а то і ў чатыры разы. Не звальнялі, каб захаваць. Добра, калі ёсць прысядзібная гаспадарка, а калі няма? На "культурныя" грошы выжыць немагчыма. І калі сёння нам не прапаноўваюць скарачацца, дык гэта таму, што ўжо больш няма каго скарачаць.

**— Ці задаволеныя Вы ўзроўнем кваліфікацыі работнікаў?**

— Безумоўна, не. Гэта праблема шырэйшая за раён ці вобласць. Але ў нас, у чарнобыльскіх раёнах, яна больш вострая і сур'ёзная. Сюды ніхто не хоча ехаць на працу. Вось вы адпусцілі б сваіх дзяцей у Ветку? Так разважае кожны. А тыя, хто тут жывуць, маюць уласную гаспадарку і "па сумяшчальніцтве" загадваюць клубам. Яны, зазвычай, не вельмі прафесійныя. Адсюль — страты ва ўсім. Слабая арганізацыя, падрыхтоўка. Там, дзе раней было два-тры калектывы мастацкай самадзейнасці — цяпер толькі адзін. Але, шчыра кажучы, я ў душы ўдзячны тым, хто працуе. Яны робяць гэта не дзеля грошай. Душы ратуюць — свае і чужыя.

**— А як Вы апынуліся ў Ветцы?**

— Я тут нарадзіўся. Усё тут маё. І школа, дзе вучыўся і выкладаў, і маё шасцімесячнае дзіця. Я не змагу адсюль паехаць. Людзі вяртаюцца да нас пасля сямі-васьмі-дзевяці гадоў адсутнасці. Не здолелі... А на Радаўніцу — "зона" аж гудзіць ад людзей, якія прыехалі наведаць родныя магілы.

**— Сёння цяжка наладзіць культурныя мерапрыемствы без адпаведнай апаратуры. Часы гармонікаў, быццам, ужо мінулі. Як Вы знаходзіце выйсце з гэтага становішча?**

— А вось як: глядзіце — гэта тэлевізар "Радуга-719", яму ўжо пятнаццаць гадоў. Не дазволіў выкінуць. Адрамантуем, яшчэ паслужыць. А гэта — магнітафоны, нашы, "савецкія". Таксама адрамантуем — і дыскатэкі забяспечым. Музычных цэнтраў няма і не будзе. Мы гэта ведаем. Хаця, здараецца, дапамагаюць добрыя людзі. Напрыклад, Алег Міхайлавіч Жураўскі, кіраўнік "Торг-Экспо", падарыў музычнай школе відэадвойку. Не, не пра гэта размова. Не пра грошы. А пра тое, што калі не дапамагаеце, дык, прынамсі, не перашкаджайце.

**— Можаце патлумачыць?**

— У сферы культурнага абслугоўвання насельніцтва існуе больш за 400 форм платных паслуг. Тыя ж дыскатэкі, музычныя школы, гурткі розныя, канцэрты... У 1990 годзе 20 працэнтаў сваіх патрэб мы забяспечвалі з гэтых прыбыткаў. У 1994 годзе — толькі 5 працэнтаў, летась — 9. Чыноўнікі назвалі гэта гаспадарчай дзейнасцю і абкладаюць яе такімі ж падаткамі, як усялякі іншы від дзейнасці. Падумаць толькі — гаспадарчасць культуры. Дзе яшчэ, акрамя як у нас, вы пачуеце падобнае словазлучэнне?

Пра якія грошы ўвогуле ідзе размова, калі чарнобыльская надбаўка, якую плацяць у нашых раёнах кожнаму жыхару, складае 17 тысяч рублёў. Тры пачкі цыгарэт... Не пра гэта размова. Хацелася б чалавечых адносін, маральных, ад нашых высокіх чыноўнікаў.

*Калі пакідаў Ветку, зайшлі разам у музей... Што б далі Гомелю Парыж, Нью-Ёрк, Лондан, Токіо, колькі золата і дыяментаў, каб адвезці гэты цуд да сябе і абкласці яго там, у "капіталістычным раі" ватаю! Жыве музей, што спыніў імгненне, плыве ягоны старажытны човен паўз жанчын на беразе, апранутых у старадаўнія строі, паўз вёскі, што стаялі калісьці на гэтых берагах, плыве з мінулага ў будучыню, мінаючы нашае чарнобыльскае сёння. Хутчэй бы...*

*... Уладзімір Данілавіч сказаў мне, што не можна знайсці грошы, каб аплаціць ахову музея. Можа, султана якога з Брунея папрасіць, каб дапамог?*

**Ганна Дзянісаўна БЯРНАДСКАЯ, загадчыца раённага аддзела культуры Добрушскага раёна.**

**— І ў Вас за чэрвень няма заработнай платы?**

— Не.

**— А калі б яна была, ці можна на яе жыць у вашым раёне?**

— На такі заробак нідзе жыць нельга.

**— Кадры і ў вас — праблема нумар 2?**

— Так. І, як паўсюль, прафесіяналізм адпавядае заробку.

**— А што з'яўляецца праблемай нумар 3?**

— Увага кіраўнікоў раёна, вобласці, дзяржавы. Хацелася б яе паболей.

**— Як жа вырашаюцца кадравыя пытанні?**

— Часткова праз жыллё, часткова — праз павелічэнне заработнай платы. Я маю права дадаваць да пяцідзесяці працэнтаў, выкарыстоўваючы спецыяльны рахунак.

**— Ці толькі гэтыя праблемы хвалююць вашых людзей?**

— Безумоўна, не. Вось пабывалі ў нас Буднік, ансамбль "Вяселле" — вочы ў людзей змяніліся: пра нас памятаюць, мы яшчэ жывыя. А то з 1994 года — нікога. А той год запомніўся — Лучанок, Стральчэня, Шахлевіч, танцоры. Праўда і тое, што паўтара гады — вялікі перапынак.

Было цёмна, а тут цікавасць з'явілася. Быццам бы пачалі прачынацца. Дзесяць гадоў — наспеў час. Прачынаецца цікавасць да жыцця.

**— Гэта адбываецца толькі за кошт мастацтва?**

— Мяркую, што не толькі. Мабыць, і прыватная ўласнасць, новыя адносіны таксама адыгралі сваю ролю. Ды і больш рэальна трэба глядзець на жыццё: нам не горш за ўсіх. Ёсць людзі, у якіх хлеба нестае. І не толькі на Гомельшчыне.

**— Як Вы сустрэлі чарнобыльскае дзесяцігоддзе?**

— Працай. У Насовічах, у школе, такі этнаграфічны музей дзейнічае, што многія прафесіяналы пазайздросцілі б. Серпікаў Віктар Пятровіч там шчыруе. А вы прыязджайце ў Насовічы, мы вам музычную школу пакажам, спартыўны комплекс, у басейне паплаваеце.

А ўвогуле ў раёне — дзесяткі ды сотні розных мерапрыемстваў. Жывём. Вы ў Мінску раскажыце, што мы вельмі хочам, каб там пачулі пра нашыя надзённыя патрэбы. Нам нестае чалавечых увагі і цеплыні.

*Гэта кароткая размова адбывалася ў кабінеце начальніка абласнога ўпраўлення культуры Алега Маісеенкі. Ганна Дзянісаўна спяшалася. Прыгожая, зграбная, упэўненая — і спакойная, яна пакінула кабінет. І ніводнага разу я не заўважыў у яе паводзінах лёкайства, жадання "падсябрыцца" да начальства — годна паводзіла сябе падначаленая. "На такіх людзях і трымаемся", — яшчэ раз упэўніўся я. Пакуль такія жанчыны жывуць побач з намі — мы будзем жыць. Нават і ў "зоне". Шкада толькі, што "зона" гэтая існуе і з'яўляецца стварэннем чалавечых рук.*

**Алена Юр'еўна МАРМО, загадчыца Рагачоўскага гарадскога аддзела культуры.**

**— Праблемы?**

— Яны аднолькавыя паўсюль. Пасля грошай — кадры, потым — будаўніцтва. Не, не так: новае будаваць — і не марым пра гэта. Даўгабуды б да ладу давесці — вось мара.

... Ад'язджаюць прафесіяналы. Згодна з праграмай "Моладзь" наладзілі ў Мазыры конкурс юных талентаў "Ступені" па вакале і харэаграфіі. Наш хлопчык — 15-гадовы вакаліст Мікаэл Абас атрымаў Гран-пры. А ягоныя бацькі, прафесійныя музыканты і выкладчыкі, ад'язджаюць праз месяц... Маці кіравала калектывам у Доме культуры. Творчыя людзі не ў стане, нават пры ўсёй сваёй вар'яцкай любові да справы, пражыць на 400 тысяч рублёў на месяц. Школа мастацтваў — у жудасных умовах. Прафсаюзныя клубы зачыняюцца. Прыйшла я да намесніка старшыні гарвыканкама Валянціна Іванавіча Кандрацэнкі: "Нельга, — кажу, — працаваць з трыма штатнымі адзінкамі ў аддзеле і нешта істотнае рабіць для горада".

**— І які вынік?**

— Штат павялічылі на тры адзінкі.

*(Бачачы маё здзіўленне, яна сама, мабыць, асэнсоўваючы ў які ўжо раз гэты факт, здзівілася. Кандрацэнка, як я потым упэўніўся, гэта — "чалавек-каркас": на ім у Рагачове шмат што трымаецца. І адна з самых магутных, калі можна так вызначыцца, культурных акцый на Гомельшчыне — стварэнне краязнаўчага цэнтра з музеем, — знітаваная з ягоным імем. Пра гэта варта распавесці асобна.)*

**— Раскажыце, калі ласка, што Вас радуе?**

— Маладзёжны тэатр мініяцюр "Мэтр", які стварыла Наталля Крышталь, КВЗ, з якога пачынаецца ўсё новае ў горадзе. Людміла Восіпава і Павел Волкаў — людзі, без якіх не было б ні КВЗ, ні нічога новага. Дзякаваць Богу, што ёсць такія людзі. Яны прадэманстравалі гораду, як трэба працаваць.

**— Ці ёсць у Рагачове цэнтры культуры?**

— Так. Школа мастацтваў, Дом культуры і краязнаўчы цэнтр з музеем. У школе добрыя кадры, яе калектыў — гэта і ёсць культура горада. Там спалучаюцца талент, інтэлігентнасць і эстэтыка.

У гэтым годзе аркестр народных інструментаў атрымаў званне народнага. Мне прыемна назваць кіраўніка Леаніда Лявонава. Хочам прышчапіць гораду густ да духоўнай музыкі. Пачалі з дзіцячага аркестра.

**— А якім чынам паўплываў на вашыя справы Чарнобыль?**

— Я кіраўнік малады, але ведаю, што і матэрыяльная база, і творчы патэнцыял былі амаль на нулі. Цяпер існуе створаны тры гады таму фестываль "Рабацінка". Праца Таццяны Пятрэнка, Наталлі Сідарэнка прывабіла больш за 300 дзяцей у харэаграфічныя калектывы, бо ёсць з чаго выбіраць. Два гады спаборнічалі мясцовыя калектывы, потым пачалі прыязджаць да нас з Расіі, Гомеля, Бабруйска. Мы ездзілі на фестываль у Ціхвін. Але грошай на паездкі нестае. Цудоўна працуюць юныя археолагі, якія абагаўляюць свайго кіраўніка, чалавека энцыклапедычных ведаў Аляксандра Рыкунова. У педагагічнай вучэльні выкладчыкам Уладзімірам Нямізанскім створаны літаратурны музей "Пісьменнікі-земляк". Каля двухсот імёнаў прадстаўлена ў ім. На базе гэтага музея наладзілі ў юбілейныя дні "Караткевічавы чытанні".

**— Вы — смелая жанчына? Як гэта адбіваецца на працы?**

— У кіруючыя кабінеты ўваходжу смела, таму што прашу і патрабую не для сябе. Зараз перажываю за тое, каб дабудавалі памяшканне школы мастацтваў. Пяць гадоў будуем. Напалову гатова. Вось тады...

**— Што — "тады"?**

— Тады будзе база! А гэта — палова праблем.

**— У чым Ваша задача як кіраўніка?**

— Кіраўнік павінен ствараць умовы для працы. Мае работнікі працуюць у жудасных умовах. Творчыя магчымасці культуры горада значна вышэйшыя за ўмовы працы.

* * *

Так, вопыту не хапае. Маладзенькая. Затое столькі жадання зрабіць для горада штосьці канкрэтнае, карыснае, неабходнае. Па сутнасці, гэта галоўнае ў кожнай высокадухоўнай асобе. У Аляксея Сінькевіча, рэжысёра Рагачоўскага народнага тэатра, у п'есе А.Ждана "Зманілі Богу, зманілі..." 26 красавіка яна сыграла ролю Старой, якая засталася адна ў чарнобыльскай вёсцы... Рэха памерлых чалавечых паселішчаў...

**P.S.** У Гомелі я даведаўся, што нейкія грошы на "дабудову" выдаткаваныя. Іх цалкам аддалі на такую ж недабудаваную школу ў Рэчыцы: там меней трэба дабудоўваць. Але калі Рэчыца не скарыстае іх — грошы адразу ж перададуць Рагачову. Можа, і спраўдзіцца мара маладой кіраўнічкі. "Хопіць апяваць Чарнобыль, трэба жыць!" — сказала яна на развітанне. Добра разумее прыярытэты. Мне спадабалася.

**P.P.S.**

Праз два дні ад'язджалі з Рагачова. Мне паказалі месца, дзе на беразе, ля зліцця дзвюх рэк, любіў пасядзець Уладзімір Караткевіч. Пастаяў я там, нібыта зноў пабачыліся: шмат што ўзгадалася...

Да месца, дзе нас чакала спадарожная машына-"казёл", мы ішлі праз цэнтр. Там, пад блакітным небам і па-летняму яркім сонцам танчылі рознакаляровыя дзеці, гучала музыка — ішло свята мясцовага значэння. І тут мой спадарожнік сустрэў сваю знаёмую настаўніцу, намесніка дырэктара школы па выхаванні. "Што здарылася?" — папытаўся ён, пабачыўшы выраз яе твару. На вочы жанчыны навярнуліся слёзы. Мне стала няёмка, я прайшоў наперад, каб пачакаць. Справа аказалася такая: не ўпершыню немцы прывезлі ў Рагачоў "гуманітарку", але харчы — ўпершыню. Пакункі акуратна загорнуты, важкія. Папярэдзілі намесніка дырэктара, каб адабрала пяцёх з тых, каму дапамога патрабуецца асабліва востра. А што іх адбіраць? Палова школы недаядае... Ёсць такія вучні, што харчуюцца толькі ў школе. Папыталася: "Што ў вас сёння дома?" Адзін з вучняў адказвае: "Сёння — толькі кіпень". Адабрала яна васьмёх з думкаю: пабачаць — дадуць усім ім. І вось выйшлі два сытыя, сталага веку, немцы (хіба яны вінаватыя ў тым, што мы галодныя... Яны "вінаватыя" ў тым, што яны сытыя) і працягнулі дзецям пакункі з ежай. Дзеці бяруць гэтыя (праклятыя!) пакункі... Ручкі ў іх тоненькія, блакітнаватыя, прыціскаюць ежу да сябе... А трэці немец здымае гэта камерай..."

Потым да намесніка дырэктара прыйшлі настаўнікі: "Чаму з майго класа нікому не далі?" "А заўтра, — вымавіла яна скрозь слёзы, гледзячы на дзяцей, — пачнуць прыходзіць і пытацца бацькі..."

... Мой спадарожнік распавядаў мне гэта і ў яго на вачах таксама былі слёзы. Вось такім чынам праважала нас залатая Рагачоўшчына, зямля Караткевіча, адзін з найбагатых у мінулым куткоў Беларусі.

Навошта я ехаў сюды? Пра якую культуру можа ісці гаворка? Чым займаемся? Вось што патрабуе "хуткай дапамогі", а мы артыкулы пра харэаграфію складаем?

... Разумею, што культурай і толькі ёю можна перамагчы і Чарнобыль, і галечу, і рабства. Але — ніяк не магу забыцца на вочы той, рагачоўскай настаўніцы.

**Навум ЦЫПІС**

# КАЛІ Б ДАДАТКОВЫ ЗАРОБАК БЫЎ ХОБІ...

— Рагоўская Валянціна Георгіеўна, — назвала яна сябе.

Начальнік упраўлення паважліва дадаў:

— Дырэктар Гомельскага драматычнага тэатра. З тае пары як Валянціна Георгіеўна села ў гэты фатэль, у мяне паменела клопатаў.

— Як жывяце? — задаў я заўсёднае пытанне.

— Не горш за іншых, — адказала дырэктар.

Яна прыйшла да начальніка ўпраўлення вырашаць свае бясконцыя справы, а тут — пытанні, карэспандэнты... Пачуў я гэта — "не горш за іншых" — і цікава стала. Як гэта? А вось як: "Заработную плату выплочваюць рэгулярна." Да заробку яшчэ вернемся. А пакуль — канкрэтныя праблемы тэатра.

Цяжка. Рэпертуар, творчасць, глядач. Але! Яна распавядае пра людзей, якія сёння падтрымліваюць тэатр. Уладзімір Вячаслававіч Купрыянчык, генеральны дырэктар АТ КУТЭКС (міжнародныя перавозкі); Валянцін Міхайлавіч Некрашэвіч — генеральны дырэктар гандлёвага дома "Гарызонт — Гомель"; Сяргей Уладзіміравіч Ярмак — кіраўнік фірмы "Эканес"...

— Міласціна? Аднаразовыя "ўліванні" для іміджу фірм? — "правакую" я.

— Не. Традыцыя. У міжнародны Дзень тэатра, падчас "Славянскіх сустрэч", на свята Перамогі Некрашэвіч, Ярмак, прадстаўнікі "Хрысціянскай місіі" набываюць спектаклі, робяць падарункі.

Сяргей Ярмак пачаў сваю дабрачынную дзейнасць у дзень 50-годдзя Перамогі: "Дзякуй вам за тое, што мы жывём, — сказаў ён. — Я хачу, каб вы наведвалі тэатр. Вазьміце гэты падарунак ад нас, вашых унукаў. Ведайце, што мы на вас не забываемся". У шмат каго ў зале былі слёзы на вачах. Сёлета Сяргей Уладзіміравіч зноў купіў спектакль для ветэранаў да Дня Перамогі.

**— Чаму бізнесмены гэта робяць?**

— Таму, што не ўсе яшчэ забыліся на тое, што яны людзі.

**— Вы шмат гадоў аддалі тэатру. Калі б я папытаўся: якія жаданні ў акцёраў сёння?**

— І сёння, і заўсёды — гастролі. Гэта — паветра акцёра, гэта — ягонае жыццё. На жаль... Няма грошай. Няма іх нават на тое, каб набыць актрысе туфлі для спектакля. На транспарт, каб у раён паехаць і сустрэцца з людзьмі, — няма паліва. Акцёры апранаюцца горш за гледачоў... Я, дырэктар тэатра, выпрошваю для акцёраў гуманітарную дапамогу. Футра, боты, дыяменты... Калі гэта было? Народ павінен забяспечваць божых пасланцоў хаця б хлебам штодзённым! Так? Куртачкі, танныя паліто, у якіх вы не адрозніце актрысу ад прыбіральшчыцы. Справа, безумоўна, не ў адзенні, а ў магчымасцях. Раней — па вуліцы ідзе Актрыса! "Вы бачылі?" А цяпер? Не адрозніш... А адрозніваць трэба! Сэрца стагнала, калі "Хрысціянская місія" дарыла актрысам курткі ды крэмы... І ўдзячнасць у душы і — прыніжанасць. Таму я змагаюся за акцёра. З любога кабінета выйду з пэўным вынікам, бо за мной соль зямлі — Акцёры.

Летась я "выбіла" для іх тры кватэры. А за восем гадоў — трыццаць дзве! Лічу, што служу вялікай справе.

**— Калі б я папытаўся, што зрабіла на Вас найбольшае ўражанне за апошні час? Выпадак, падзея? Што-небудзь з тэатральнага жыцця?**

— З жыцця? Быццам бы і няма ў тым, што я вам раскажу, нічога асаблівага, але вось запомнілася і ўзгадваецца... І псуе мне настрой. Іду неяк два месяцы таму па "старым аэрадроме": там сапраўды некалі быў аэрапорт, а калі яго зруйнавалі, дык пабудавалі дом цалкам для інтэлігенцыі. Іду я, а насустрач мой акцёр. Добры акцёр, вядучы. На плячы кайстра, а ў ёй інструменты: дрэль, піла.. Куды? Ён і растлумачыў мне спакойна, без эмоцый, што даўно ўжо знайшоў дадатковы заробак — рамантуе людзям кватэры — інакш не выжыць яму з сям'ёй. Выслухала яго таксама без эмоцый і разышліся. Быццам бы нічога не здарылася. Ён акцёр, а я — дырэктар тэатра, дзе ён іграе мару пра сапраўднае жыццё. Годнае, напоўненае духоўнасцю, хараством. Дорага б я аддала, каб гэты занятак — рамонт, быў ягоным хобі. А ён, чалавек рэдкай на зямлі прафесіі, вымушаны так вось... Ён жа дадому ў лепшым выпадку 600 — 700 тысяч з тэатра прыносіць. Што рабіць? Дадатковы састаў — 400 тысяч, мастацкі кіраўнік (увесь тэатр на ім!) — 800.

**— А Вы?**

— 790. Я яшчэ нічога, дадам пенсію — пражыву. А моладзь? Але з тэатра не сыходзяць: артыст без сцэны не можа. Памятаеце анекдот: "З іх яшчэ грошы браць трэба за тое, што ім дазволена на сцэну выходзіць".

**— А што ж будзе з гастролямі?**

— Я ўмею ўгаворваць мецэнатаў. Паспрабую і ў гэты раз. Так хочацца, нарэшце, убачыць годнае жыццё не толькі на сцэне...

Сумнае гэтае інтэрв'ю (хаця нічога незвычайнага Валянціна Георгіеўна і не паведаміла) скончылася не сумна, хутчэй, нават аптымістычна. На пытанне: "Як глядач наведвае тэатр?", я пачуў адказ: "Упершыню пасля 1986 года, калі з'ехаў "асноўны" глядач, мы зноў маем поўныя залы... Штосьці мяняецца".

Добра было б. Глядач — народ чуйны. Паспрабуем яму паверыць.

**Навум ЦЫПІС**




# НЕДЗІЦЯЧЫЯ ГУЛЬНІ

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ**

Тэатр пантамімы "Спадарожнік" быў заснаваны яшчэ ў 1979 годзе на базе школы-інтэрната №13 г.Мінска. І тады і цяпер у калектыве ўдзельнічаюць вучні ва ўзросце ад 7 да 15 год. Час ідзе... Мяняюцца пакаленні маленькіх акцёраў. Кіраўнік жа нязменны — адзін і той жа.

Тадэвуш Генрыхавіч Бекіш сапраўды індывідуальнасць, творчая асоба. Гэты чалавек заўсёды імкнецца да пазнання нечага новага. За гады існавання тэатра для дзяцей з недахопамі слыху сп. Бекішам было пастаўлена восем спектакляў і 44 слынныя асобныя нумары. Гэта і "Курган" паводле Я.Купалы, "Маўглі" паводле Р.Кіплінга, "Бэмбі" паводле Ф.Зальтэна, "Беларускія сувеніры", "Люстэрка", "Залатая птушка", "Маленькі прынц" паводле А.Сэнт-Экзюперы. Вучні любяць свайго кіраўніка, паважаюць і давяраюць яму. Калектыў тэатра неаднаразова выступаў са сваімі праграмамі на раённых, гарадскіх, рэспубліканскіх аглядах.

У 1994 годзе тэатр пантамімы "Спадарожнік" прымаў удзел у сусветным фестывалі мімаў у Брно, дзе таксама стаў лаўрэатам фестывалю. Акрамя спектакляў тэатр цікавы разнастайнымі і смешнымі клаунадамі: "Суперніцтва", "На пляжы", "Дэпартамент цэн". Калектыў тэатра пастаянна выступае перад жыхарамі Беларусі. "Спадарожнік" неаднаразова выязджаў на гастролі ў Польшчу, Літву, Расію. З вялікім поспехам прайшлі выступленні тэатра ў Чэрвеньскім, Стаўбцоўскім, Вілейскім, Рэчыцкім раёнах, а таксама ў гарадах: Брэсце, Віцебску, Гомелі. Тэатр пастаянна выступае і ў школах Беларускай сталіцы. "Спадарожнік" добра ведаюць і ў лагеры адпачынку для дзяцей "Зубраня". Тэатр нясе ў сабе гуманістычную функцыю акрамя забаўляльнай. Па запрашэнні Дабрачыннага фонду "Дзеці Чарнобыля" маленькія акцёры са школы-інтэрната №13 выступалі ў дабрачынных канцэртах у 1994 і 1995 гадах.

Калектыў тэатра знаходзіцца ў пастаянным творчым пошуку. Вынікам яго дзейнасці сталі ўзнагароды. На гарадскіх аглядах мастацкай самадзейнасці ў 1991, 1993, 1994 гадах калектыў заняў першае месца, на рэспубліканскіх аглядах у 1991, 1992, 1994, 1995 гадах ён стаў лаўрэатам і атрымаў дыпломы і прызы.

Тадэвуш Генрыхавіч да справы сваёй ставіцца добрасумленна, любіць яе, шукае новыя формы і метады работы з людзьмі. Між іншым, чалавек гэты з нялёгкім лёсам, інвалід. Дзякуючы шматграннаму таленту гэтага чалавека (Тадэвуш Бекіш — акцёр і рэжысёр, фатограф і педагог) была атрымана такая ўзнагарода, як Гран-пры на сусветных фестывалях мімаў у г.Брно і ажно тройчы — у 1991, 1992, 1994 гадах).



Велізарная заслуга ў тым, што такі калектыў у нашы цяжкія часы дзейнічае, прыналежыць Ларысе Антонаўне Бандарэвіч — дырэктару школы-інтэрната № 13 для дзяцей з недахопамі слыху. У працу ўключыўся і новы завуч В.В.Новік (культуролаг па адукацыі).

Сёння ў "Спадарожніка" сапраўднае свята. Калектыву нададзена званне ўзорнага. Гэта вынік напружанай працы Тадэвуша Генрыхавіча і яго маленькіх акцёраў. Са святам вас!

*рэпліка*

# ЗАСНЕЖАНАЯ ПРЭМ'ЕРА

**Зміцер ВОЛКАЎ**

Усе ведаюць, што сённяшняе кінамастацтва перажывае даволі складаны час. На творчыя праекты грошай катастрафічна не хапае. Таму прэм'ера "Гульні на заснежаным полі" выклікала пэўную ўвагу ў гледача — зала рэспубліканскага Дома вэтэранаў была поўная.

Пачатак фільма яскравы — сыпучы снег... вайскоўцы... музыка... Ды што далей? — Андрэй Клімаў і Аляксандр Шулік галоўныя героі фільма.

Беларускія прадпрымальнікі. Што рухае гэтымі людзьмі? У фільме паведамілі — Клімаў ведае, як патушыць любы пажар... Вайскоўцы, снег, птушкі, царква, званы, падаткі, футбол... Але ўзнікае пытанне да сцэнарыстаў Мікалая Князева і Уладзіміра Мароза — дзе звышмэта? Гэтае пытанне было зададзена і кінакрытыкам Ефрасінняй Бондаравай. Ні сцэнарысты, ні рэжысёр не адказалі на яго. Андрэй Клімаў, як сапраўдны прадпрымальнік, заўважыў у пытанні толькі грашовы кантэкст...

На дыскусіі, пасля прагляду стужкі, не абышлося без казусаў, нейкія бабулькі выходзілі да мікрафона і пачыналі распавядаць пра кавалак зямлі і чытаць вершы. Адна наогул запытала: "А чым той прадпрымальнік займаецца?"

*Ля фантана*

# ЗЫХОД ЯК ПАРАДЫГМА НАШАГА ЛЁСУ

**Галіна СІНІЛА**

... Жаўтавата-шэрыя маналіты, складзеныя ў цыклапічную муроўку, узносяцца ў вышыню, колькі хапае прасторы воку. Мур Плачу, Сцяна Плачу — галоўная іудзейская святыня, міласціва захаваны бязлітасным часам фрагмент старажытнага Іерусалімскага Храма (дакладней, не самога Храма — заходняга мура храмавай агароджы, Катэль га-маарыў), сімвал Вечнага горада. У ім, у Муры Плачу, нібыта сціснута шчыльна старажытнаяўрэйская гісторыя, што працягваецца і зараз у жывой гісторыі яўрэйскага народа і што стала часткай хрысціянскай святой гісторыі. Да яго, да Мура Плачу, выходзіць, як і тры тысячы гадоў назад, яўрэй, захінуты ў малітоўнае пакрывала — таліт, і пявучыя гукі малітвы на іўрыце напаўняюць залу. Да яго, да Мура Плачу, пераадолеўшы мяжу сярэдневяковага гета, выходзіць хасід у традыцыйнай чорнай вопратцы са Святой кнігай у руках. З-за яго, з-за Мура Плачу, выходзіць на авансцэну хлапчук у пунсовай туніцы (гэты пунсовы колер — нібыта знак раннехрысціянскіх часоў) і з усё той жа Святой кнігай — Бібліяй, што кроўна з'яднала іудзейска-хрысціянскую цывілізацыю. Ростань, размежаванне — і яднанне часоў, эпох, культур... Тонкі, напружаны хлапчуковы голас чытае Псалом 76-ы: "У дзень смутку майго шукаю Госпада; рука мая працягнута ноччу і не апускаецца; душа мая ад суцяшэння адмаўляецца. Успамінаю пра Бога і заміраю, раздумваю — і знемагае дух мой. Ты не даеш мне заплюшчыць вочы мае, я ўзрушаны і не магу гаварыць. Разважаю пра дні старажытныя, пра часіны вякоў мінулых..." (Пс.,76: 3-6. — тут і далей пераклад наш. — **Г.С.**).

Так пачынаецца новы спектакль на сцэне Рускага тэатра — містэрыя "Зыход" паводле аднайменнай біблейскай кнігі ў пастаноўцы народнага артыста Рэспублікі Беларусь Барыса Луцэнкі.

Прэм'ера была прымеркавана да Дзён культуры Ізраіля, што праходзілі на Беларусі ў сувязі з трохтысячагоддзем Іерусаліма, якое святкуюць і іудзеі, і хрысціяне, і мусульмане, і ўвесь цывілізаваны свет. Прысутнічаў на прэм'еры і пасол дзяржавы Ізраіль у Беларусі Эліягу Валк, які быў асабліва ўзрушаны, усхваляваны, і не выпадкова: на сцэне ўвачавідкі ўвасабляліся падзеі яўрэйскай гісторыі пачатку XIII ст. да н.э. Яны сталі зыходным момантам нараджэння народа: пераадоленне рабства, здабыванне свабоды, дараванне Закону (Торы), Запаведзяў, а з імі — набыццё перспектывы сапраўднай, унутранай свабоды (як пажартаваў адзін мудрэц, лёгка вывесці нас з рабства, але складана вывесці рабства з нас).

Невыпадкова гэтыя падзеі старажытнай гісторыі, што ў міфапаэтычным праламленні адлюстраваны ў кнізе Зыходу — другой кнізе Пяцікніжжа Майсеева, набылі статус метагісторыі, сталі парадыгмай (узорам, мадэллю) гістарычнага быцця. І справа, зразумела, не толькі ва ўрачыстых датах. Справа ў тым, што ў нашым трывожна-абессэнсаваным свеце, які хістаецца і распадаецца на нашых вачах, наступіў час ізноў адкрываць і чытаць Кнігу, што стала падмуркам і іудзейска-хрысціянскай, і мусульманскай цывілізацыі. "О Книга Книг! Кто не изведал // В своей изменчивой судьбе, // Как ты целишь того, кто предал // Свой утомлённый дух тебе..." (В.Брусаў). Настаў час ізноў шукаць у Кнізе Кніг падтрымку і апору (ці не таму і хістаецца свет, што чытаем яе вельмі мала ці наогул не чытаем?). Справа ў тым, што там, на старонках Святога Пісання, — агульныя карані нашай свядомасці, наш шлях і лёс, нашы памылкі і вялікія адкрыцці. Нездарма ж Гётэ неяк прамовіў: "Біблія — гэта кніга народаў, бо лёс аднаго народа яна робіць сімвалам усіх астатніх". І яшчэ сказана было тым жа вялікім немцам, вялікім паэтам: "Я ўпэўнены, што чым больш будуць разумець Біблію, тым больш прыгожай яна будзе здавацца".

Чытаць нанова Біблію — так! Але сродкамі тэатральнага мастацтва?! Паказваць на сцэне тое, што прынцыпова не падлягае знешняму зроку, не бачнае, не ўвасабляемае? Спрабаваць даць плоцевы, цялесны воблік найскладанай сімволіцы? Ці не залішняя гэта дзёрзкасць, нават блюзнерства? Так, дзёрзкасць, але не блюзнерства, бо сама Кніга абдымае сабой усе сферы і бакі чалавечага быцця, у тым ліку і сферу эстэтычную (акрамя ўсяго, Біблія — вялікі помнік літаратуры, у прасторы якога змесціліся амаль усе роды і жанры паэзіі, у тым ліку і драматычнай).

Сапраўдны мастак, Барыс Луцэнка ўбачыў унутраную напружана-драматычную прыроду эпічнай па свайму жанру Кнігі Зыходу. Рэжысёр даверыўся магутнай драматургіі біблейскага тэксту, а яго паплечнікамі ў стварэнні і падтрыманні драматычнага нерва пастаноўкі сталі цудоўныя акцёры Аляксандр Суцкавер (Майсей), Ігар Забара (Аарон), Юрый Болахаў (Майсей у юнацтве), Галіна Маланкіна (Сепфора), Эдуард Гарачы (Іафор), Алена Пастрэвіч (Мір'ям), Іван Мацкевіч (Фараон) і іншыя. Заўважым, што ў спектаклі асабліва важным з'яўляецца менавіта ансамбль, агульнасць намаганняў, адзіны рытм, што ўсё аб'ядноўвае і пранізвае, — рэжысура, акцёрская ігра, пластыка жэстаў і мізансцэн (шмат якія складаныя моманты тэксту надзіва лёгка і далікатна вырашаны з дапамогай пластыкі), пластыка сцэнічнай прасторы (сцэнаграфія Уладзіміра Чарнышова), нарэшце — музычная пластыка, музычны рытм. Цудоўную арыгінальную музыку да спектакля (акрамя двух фрагментаў з Баха) напісаў Аляксей Яранькоў. Музыка стала сапраўднай дзейнай асобай спектакля, менавіта з яе дапамогай вырашана, па сутнасці, самае цяжкае і далікатнае —"роля" Госпада. Як гэта тонка і празорліва: паўзы, у якія прароку Майсею дадзена чуць Голас Божы (а, згодна вызначэнню, дадзена яго чуць толькі вялікім душам і ўжо для нас трансфармаваць у гукі нашай звычайнай мовы), гэтыя паўзы запаўняе музыка, якая то тонка вібруе, ледзьве чутная, няўлоўная, амаль на мяжы дасягальнасці для чалавечага вуха, то абвальваецца, як грозны шквал, як грукатанне грому. Спектакль злучае ў сабе складаную метафорыку, сімволіку, умоўнасць хранатопу — і канкрэтнасць, нагляднасць, пластычнасць; ён зачароўвае колерамі і касцюмамі Старажытнага Усходу (касцюмы Ніны Гурло), але менш за ўсё прымушае нас патанаць у быце, у штодзённым. Ён гаворыць пра вечнае, што пачалося ў часы Майсея і працягваецца ў наш час, цераз нас.

Драматычны нерв Кнігі Зыходу, а значыць, і пастаўленага паводле яе спектакля, трымаецца на некалькіх асноўных канфліктах — паміж прызваннем прарока і коснасцю натоўпу, паміж унутранай інертнасцю, сумненнямі, ваганнямі самога прарока і Боскім заклікам, паміж вернасцю Запавету і адпадзеннем ад яго (два апошнія канфлікты шматкратна адбіваюцца, памнажаюцца ў лёсе кожнага са спадарожнікаў Майсея, кожнага з нас).

Несумненна, Майсей — цэнтральны герой кнігі (і пастаноўкі), чалавек, якому наканавана ў нейкай ступені дзёрзка прыпадобіцца да творцы і стварыць свой народ сілай сваёй волі і духу. Ён з'яўляецца на гістарычнай арэне ў той крытычны час, калі здзяйсняецца тое, што было некалі адкрыта Аўрааму: "...ведай, што нашчадкі твае будуць прышэльцамі ў зямлі не сваёй, і заняволяць іх, і будуць прыгнятаць іх чатырыста гадоў. Але Я зраблю суд над народам, у якога яны будуць у заняволенні, пасля чаго выйдуць яны з вялікай маёмасцю" (Быццё, 15: 13-14).

Ужо даўно прыгнятае егіпецкі фараон нашчадкаў Аўраама, Ісаака, Іакава — народ Ізраіля. Але, нягледзячы на ўсе ганенні, нягледзячы на рабскую катаржную працу, народ працягвае памнажацца, нараджаць дзяцей. І тады фараон прыдумвае самае страшэннае пакаранне — выкараненне вольнай мужнасці, выкараненне роду: ён загадвае забіваць усіх немаўлят мужчынскага полу, якія нараджаюцца ў яўрэяў (іўрым). Мы чуем за сцэнай глухія ўдары бізуноў, пранізлівы дзіцячы плач, лямант мацярок, мы паглыбляемся ў зусім не ўмоўную, а ў сапраўдную атмасферу пакут, невыразнага, невымаўляльнага гора. Аднаго з гэтых немаўлят, якім наканавана пагібель, ратуе маці, пакінуўшы у прасмоленай люльцы ў балоцістым трыснягу на беразе Ніла. Потым яго знаходзіць дачка фараона, што прыйшла купацца на раку. Так адбываецца выратаванне правідэнцыяльнага немаўля — дзіцяці, з якім звязана высокае наканаванне.

Жыццё Майсея, як яно паўстае ў пяцікніжжы і як яно асэнсавана ў спектаклі, — таксама пэўная парадыгма — парадыгма пераадолення інерцыі ўласнага існавання, акдрыцця сапраўднага прызначэння. Да пэўнага часу гэтае жыццё ідзе па ўжо наезжанай каляіне, але яму наканавана некалькі разоў рэзка пераламіцца, і менавіта ў такіх пераломах чалавек і асэнсоўвае сябе, сваю існасць. У першы раз гэта адбываецца, калі Майсей заступаецца за раба, якога да паўсмерці збівае наглядчык-егіпцянін, а ў другі, калі ён, ужо васьмідзесяцігадовы, пасвіць статкі свайго цесця Іафора (Рагуіла) ля гары Харыў. Вось тут Майсей і атрымлівае Боскае адкрыццё і прароцкае прызначэнне, чуючы голас, які далятае з куста, ахопленага полымем і неабпаленага, — з неабпальваемай купіны ( з гэтага моманту і назаўсёды яна стане сімвалам бессмяроцця духу, нязгаснасці, незніштажальнасці духоўнасці). Гасподзь кліча: "І вось, ідзі: Я пашлю цябе да фараона, і выведзі з Егіпта народ Мой, сыноў Ізраілевых" (3:10).

# АБРАННІКІ ТЭРПСІХОРЫ

**Уладзімір БАРЫСЮК**

Нягледзячы на цёплы дожджык, што церусціў час ад часу, шматлюдна было ў грамадска-культурным цэнтры Берасця. Амаль тры гадзіны тут уладарыла апякунка танцаў муза Тэрпсіхора, а таксама навучэнцы Брэсцкай гарадской харэаграфічнай школы. Нагода была надзіва яркая: школа выпраўляла ў самастойнае артыстычнае жыццё свой чацвёрты па ліку выпуск.

У шасцікласнікаў-выпускнікоў ужо цалкам выканана праграма навучання, здадзены выпускныя дзяржаўныя экзамены па класічным і народным танцах, а ў якасці завяршальнага акорда быў дадзены класканцэрт, у якім сёлетнія выпускнікі паказалі і свае веды, і сваё майстэрства.

Гледачы — а імі былі бацькі, родныя, сябры імяніннікаў, іхнія настаўнікі, навучэнцы малодшых класаў харэаграфічнай школы, проста хлопчыкі і дзяўчынкі — неаднойчы суправаджалі гарачымі воплескамі выступленні заўтрашніх танцораў. Акрамя гэтай падзеі, у выпускнікоў адбыўся яшчэ канцэрт, у якім удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх класаў. Прысутныя ўбачылі заліхвацкае выкананне польскага "Кракавяка" і ўкраінскага "Казачка", карэла-фінскай полькі і сюіту з малдаўскіх танцаў, беларускія "Крутуху" і лірычны карагод "Трасуху". Быў і традыцыйны развітальны вальс, дзе разам са сваімі вучнямі віхурыла Ганна Ляўчук. Хлапчукоў апякаў настаўнік Іван Зяленін.

Напрыканцы ўрачыстай дзеі выпускнікі — дванаццаць дзяўчынак і сем хлопчыкаў — атрымалі атэстаты аб заканчэнні Брэсцкай гарадской харэаграфічнай школы. Адзначым, што Алена Хоміч і Наталля Кірылюк, Юлія Місілюк і Валерыя Дзям'янава, Вольга Залеўская атрымалі атэстаты з адзнакаю.

— Які ж лёс чакае іх?

— Усім выпускнікам прапанавана застацца пры школе яшчэ, як мінімум, на год. Займацца са зноў створаным ансамблем будзе іхні цяперашні настаўнік Ганна Міхайлаўна Ляўчук. Мы хочам, каб нашыя выпускнікі, а гэта вучні 7 — 10 класаў агульнаадукацыйных школ, проста падраслі, памужнелі. Плануецца шэраг канцэртаў, паездак. Усё будзе скіравана на ўдасканальванне і павышэнне іхняга выканальніцкага майстэрства. Гэта тое, што блізка. А ў перспектыве — нехта пойдзе вучыцца па спецыяльнасці, каб у будучым стаць выкладчыкам адной з харэаграфічных дысцыплін, хто выбера іншую жыццёвую дарогу, а мацнейшыя па часе павінны папоўніць калектыў знакамітага ансамбля "Радасць", — адказала настаўнік гісторыі харэаграфіі Таццяна Цішук.

# КВЕТКІ І ПЛАДЫ

**Зінаіда ДУДЗЮК**

***Кожны рэжысёр адной з першачарговых задач лічыць даследаванне чалавечай душы. Плённа ў гэтым накірунку працуе і вядомы рэжысёр Рыд Таліпаў, пра што яскрава сведчаць спектаклі "Запіскі вар'ята" па п'есе Гогаля і "Кароль Лір" Шэкспіра, пастаўленыя за апошні тэатральны сезон у Аўстрыі, дзе і заслужылі шмат добрых водгукаў. Напрыканцы траўня адбылася прэм'ера ў Брэсцкім тэатры драмы і музыкі, тут Рыд Таліпаў здзейсніў пастаноўку п'есы Івана Тургенева "Месяц у вёсцы". Атрымаўся светлы, глыбока псіхалагічны спектакль. Рэжысёр вызначыў яго жанр як развагі пра каханне, але, найперш, гэта роздум пра багацце чалавечай душы, якая адначасова знаходзіцца ў сталасці, юнацтве і маленстве, незалежна ад узросту, як тая яблыня, што здатная адначасова песціць на сваіх галінках кветкі і плады. Менавіта гэтакія яблыні выкарыстаны ў дэкарацыях як сімвал ідэі спектакля.***

***Пасля прэм'еры карэспандэнт сустрэўся з рэжысёрам.***



**— Рыд Сяргеевіч, што для Вас тэатр — месца працы ці месца жыхарства душы?**

— Кожны рэжысёр выкарыстоўвае тэатр па-свойму: адзін ператварае яго ў школу для выхавання гледачоў, другі выкарыстоўвае ў якасці храма для прапаведзі ўласнай ісціны, трэці — стварае музычнае шоу, каб весяліць і цешыць публіку. Я ж перакананы, што тэатр павінен узяць на сябе місію спасціжэння душы чалавека, а рэжысёр мусіць быць псіхааналітыкам, даследчыкам стану шчасця, нянавісці, абыякавасці. Мой тэатр не можа быць палітычным, ён не разглядае прыватныя павароты гісторыі. Мяне найбольш цікавіць існаванне чалавека, яго інтэлект і дух па-за гісторыяй. Таму кожны мой спектакль заўсёды сучасны, ён уздымае набалелыя агульначалавечыя пытанні, але не дае адказы, знайсці іх гледачы павінны самастойна. Я заўсёды разлічваю на такое супрацоўніцтва і буду вельмі рады, калі мяне пачуюць і зразумеюць берасцейскія аматары тэатра праз спектакль "Месяц у вёсцы". Канечне, тэатр для мяне месца жыхарства душы, без яго я ніхто. Тэатр стварыў Таліпава, а я працую на яго і на сваё бяссмерце, каб аднойчы спакойна памерці.

**— Як і ўсялякі творчы чалавек, Вы, напэўна, перажывалі незвычайныя азарэнні, падказкі і ў сне і наяве?**

— Пра гэта расказваць цяжка. Іншы раз сам здзіўляюся, адкуль прыходзіць тая ці іншая рэжысёрская здагадка,як раптам з нічога ўзнікае той ці іншы вобраз. Напярэдадні прэм'еры я пытаюся... І заўсёды атрымліваю адказ: поспех ці не. Я адчуваю сябе праваднікам,які нясе праз акцёраў гледачам сусветную інфармацыю.

**— Як бы Вы ставілі "Месяц у вёсцы" ў іншай краіне?**

— У тэатры я не цікаўлюся геаграфіяй, напэўна, я ставіў бы гэты спектакль аднолькава ў Вене і Брэсце. Магчыма, каб гэта здарылася ў Японіі, я выкарыстаў бы элементы японскага этыкету і каларыту. Згадваю, як у Вене пасля аднаго з маіх спектакляў да мяне падыходзілі немаладыя жанчыны ў дыяментах і казалі, што гэта спектакль пра іх. І адбывалася гэта таму, што спектакль наогул быў пра чалавека.

**— Рыд Сяргеевіч, хто для Вас акцёры, супрацоўнікі ці паслухмяныя выканаўцы вашай волі?**

— Канечне, супрацоўнікі. Кожны акцёр разумны і таленавіты па-свойму. У працы я павінен выкарыстаць усе яго і свае здольнасці. Рэжысёра, які ў творчасці спадзяецца толькі на сябе, чакае расчараванне і няўдача. Мы запрэжаны ў адзін воз — цягнем спектакль.

**— Як Вы разумееце свабоду ў мастацтве?**

— Мы вымушаны жыць у свеце недасканаласці. Могуць не супадаць мая этыка з этыкай тэатра і грамадскай большасці.Трэба прызнаць, што і дэмакратыя не вельмі спрыяе развіццю добрага густу, эстэтычнасці твораў. Мастак павінен мець не мараль масы, а хутчэй сваё мастакоўскае сумленне і сорам. У спектаклі дапушчальна нешта такое, што выклікае давер, некаторыя дэталі, якія нясуць на сабе адбітак праўдзівасці, але не парушаюць пачуццё гармоніі і густу. Выкарыстаў я гэты падыход і ў спектаклі "Месяц у вёсцы", упэўнены, што там ён апраўданы.

**— Якую сучасную п'есу Вы чакаеце ад цяперашніх драматургаў?**

— Мне прысылаюць шмат п'ес, адкрываю імёны цікавых маладых драматургаў, але не ўсе добрыя п'есы я магу паставіць. Гарызантальныя па сваім развіцці творы ствараюць для маёй працы занадта вузкі калідор. Вось "Месяц у вёсцы" я даўно марыў паставіць, бо гэтакая псіхалагічная п'еса, такая вертыкальная, праўдзівая гісторыя! Гэты твор вельмі сучасны.

**— Дарэчы, пра сучаснасць... Як Вы яе ўспрымаеце — з іроніяй, аптымізмам ці песімізмам?**

— Усё мінае: страшная гісторыя, крывавыя палітыкі, а жыццё і творчасць застаюцца. Сам я быў такі розны ў розныя часы. Той, мінулы Таліпаў, памёр. Скажу больш: я — могілкі Таліпавых.Але я ёсць, жыву і працую, выкарыстоўваючы пражытае і перажытае. Наш час яшчэ не спасцігнуты. Яго будуць вывучаць будучыя пакаленні. Якія яны будуць, нашы нашчадкі, не ведаю. Але жыву з аптымізмам.

---

Так для Майсея пачынаецца яго ўласны Зыход, які разумеецца біблейскім тэкстам як здольнасць пераадолець інерцыю існавання, ступіць на новы шлях, адазвацца на заклік Госпада. А гэта неверагодна цяжка: як сведчыць сам тэкст, будучы прарок некалькі разоў спрабуе аднеквацца, спасылаючыся на сваю немач, слабасць, косназыкасць. І такой па-чалавечы зразумелай здаецца нам дзёрзкая, ужо пасля ўсіх настойлівых заклікаў Бога, просьба Майсея: "Госпадзі! Пашлі другога,каго можаш паслаць" (Ч:13). Гэта ж адвечная наша песня: чаму я? навошта гэта мне? Але ў тым і справа, што ўсё залежыць ад кожнага з нас, ад нашай здольнасці зрабіць першы крок, які напачатку здаецца зусім немагчымым ці нават вар'яцкім ( з пункту гледжання Бібліі, і адзін у полі — воін). Вельмі рэльефна, буйным планам іграе гэты эпізод А.Сацкавер, прымушаючы нас зазірнуць у бездань вялікага сэрца — вялікага, але і звычайнага, поўнага сумнення, збянтэжанасці, разгубленасці. Гэты эпізод яшчэ раз падкрэслівае, якая моц патрэбна, каб узваліць на сябе цяжар прароцкага прызначэння. Але калі ўзваліў — нясі яго да канца. З гэтага шляху ўжо нельга будзе саступіць.

А потым настане момант, калі з братам Ааронам, які нібыта перакладае высокую косназыкасць прарока на марную і мітуслівую чалавечую мову, Майсей паўстане перад фараонам і вымавіць гістарычную фразу: "Адпусці народ Мой..." (5:1 —вуснамі Майсея ўжо гаворыць Сам Гасподзь). А потым будуць кары егіпецкія, што абрынуцца з няўмольнай сілай на фараона, які не хоча нічога слухаць і толькі паўтарае фанабэрыста: :...хто такі Гасподзь, каб я паслухаўся голасу Яго і адпусціў Ізраіля?" (5:2). Ён — сам сабе бог. І гэта таксама парадыгма, перасцярога аб адказнасці надзеленых уладай перад гісторыяй, перад сваім народам (з-за ўпартасці і напышлівасці фараона будуць пакутаваць егіпцяне), перасцярога аб самай жудаснай — маральнай — глухаце і слепаце. А потым будзе дзівосная ноч выхаду з рабства і цудоўнага выратавання на Трысняговым моры (Ям-Суф, у традыцыйных перакладах — Чырвонае мора). Проста са сцэны, пад магутныя гукі Баха, што прымушаюць нашу душу несціся ўвышыню, яны, уцекачы — пакуль што яшчэ рабы, але рабы, якія робяць першыя крокі да волі, — смела пакрочаць у бурлівы вір, у жыццёвае мора, у глядзельную залу. І, здаецца, менавіта ў гэты момант глядач і адчуе, што ён — не пабочны назіральнік, ён сам — дзеючая асоба гэтага спектакля, ён сам — удзельнік бясконцага Зыходу. Гэты Зыход з рабства фізічнага і духоўнага, гэты Зыход нашай душы з бездані коснасці, гібення, марнення.

Цяпер за імі — ў пустыню. Знешняя свабода яшчэ не ёсць сапраўдная свабода. Людзі павінны пераадолець рабства ў саміх сабе, набыць сапраўдную веру і сапраўдны маральны Закон. Толькі так натоўп рабоў можа ператварыцца ў народ. Шлях да падножжа Сіная, дзе будуць падараваны Скрыжалі Запавету з Дзесяццю Запаведзямі, а потым саракагадовае блуканне ў пустыні асэнсоўваецца як парадыгма шляху народа — і кожнага чалавека — да сапраўднай свабоды. Гэты шлях адзначаны ўзлётамі і падзеннямі духу, сутычкамі веры і бязвер'я, і менавіта на гэтым шляху яскрава выяўляецца духоўная моц Майсея — вялікага пастыра, што прымае ўдар на сябе.

Ужо ў самых старажытных тлумачэннях пустыня, праз якую прарок вядзе свой народ, разумеецца як вобраз неасветленай цемры плоцевых, жывёльных інстынктаў, якія павінен выкараніць у сабе чалавек. Напэўна, ёсць вялікі сэнс у тым, што Запаведзі даюцца народу не ў рабстве егіпецкім, а ў пустыні, хоць яна па-ранейшаму, як і той жа "дом рабства", — пустыня духоўнай галечы. Але прыняць Запаведзі могуць людзі, якія валодаюць хаця б знешняй, вонкавай свабодай. Толькі тады яны змогуць свядома іх выконваць, а цераз свядомае выкананне Запаведзяў — прыйсці да сапраўднай свабоды. Як пісаў С.С.Аверынцаў, "толькі таму, хто выйшаў — толькі духоўна ці духоўна і фізічна, цераз барацьбу з гвалтам звонку ці са сваім жа сваявольствам — з "дому рабства", толькі яму можна даць запаведзь. Бо ў "доме рабства" для запаведзі Боскай месца няма: там жыццё чалавека рэгулюецца зусім іншымі законамі. Такая сама сутнасць "дома рабства", яго лагічнае вызначэнне... У кожнага з нас павінен быць нібы надзел знешняй свабоды, каб на прасторы гэтай свабоды выконваць запаведзі. Як сказаў Чэстэртан, "калі ёсць запаведзі Бога, павінны быць правы чалавека..."

Надзвычай цікава вырашана ў спектаклі сцэна даравання Скрыжаляў з Дзесяццю Запаведзямі, даравання Торы (Закону): маленькія, мізэрныя, слабыя людзі падаюць на зямлю, у пыл, знясіленыя моцай Боскага голасу, але гэтай жа моцай яны ўздымаюцца, адраджаюцца. Мы бачым, як на нашых вачах прарастаюць усходы маральнай свядомасці, як рэхам пералятае з вуснаў на вусны:"Няхай не будзе ў цябе іншых багоў перад тварам Маім... Шануй бацьку твайго і маці тваю... Не забівай. Не пралюбадзейнічай. Не крадзі" (Зыход,20:3; 12-15). Цяпер гэтыя простыя і вечныя словы — вечныя дзеясловы — назаўсёды будуць у іх — і нашых — сэрцах.

Але што ж? Аказваецца, і атрыманне Запаведзяў — яшчэ не ўсё. Патрэбна прыняць іх менавіта сэрцам, увабраць у сябе, зрабіць сваёй плоццю і крывёю. Вось чаму і спатрэбяцца яшчэ сімвалічныя сорак гадоў блукання ў пустыні. Як сказана вялікім паэтам, "Прямые коротки пути, //Потребна скорбь, потребно время, //Чтобы смогло произрасти //На ниву брошенное семя" (Х.Н.Бялік, пераклад І.А.Буніна). Шлях праз пустыні і паўстае ў асэнсаванні рэжысёра як шлях барацьбы з самім сабой, са сваёй звычкай да рабства, з прыхільнасцю да егіпецкіх "гаршкоў з мясам". Самыя малыя цяжкасці і выпрабаванні прымушаюць народ наракаць на тых, хто распачаў справу свабоды, прымушаюць звяртаць свой унутраны погляд да звыклага і "ўтульнага", нягледзячы на смерць і пакуты, рабства. Як нейкі дэшыфравальны код, гэта накладваецца на наш час: шлях да свабоды доўгі і смяротна цяжкі, жыцця можа на яго не хапіць, а вось каўбаса за два дваццаць і гарэлка за тры шэсцьдзесят дзве — гэта каб зараз, адразу...

Трагічная кульмінацыя спектакля — знакаміты эпізод са стварэннем залатога цяльца, які падмяніў сапраўднага Бога (Аарон слабадушна пайшоў насустрач натоўпу ў час, калі адсутнічаў Майсей, хаця сам разумеў усю ганебнасць справы). Прарок, які сышоў з гары, у страшэннай роспачы і абурэнні разбівае самае дарагое, што ёсць у гэтых людзей, — Скрыжалі Запавету. Востры боль і сумненне — ці будзе калі-небудзь народ варты Запавету — раздзіраюць душу Майсея, крояць яму сэрца. І ўсё ж такі ён працягвае палка любіць свой злашчасны народ, без якога і яго жыццё страчвае сэнс. У словах Майсея, звернутых да Госпада, — заклік да міласэрнасці і гатоўнасці да самаахвяравання:" Даруй ім грэх іх. А калі не, то згладзь і мяне з Кнігі, у якую ты запісаў" (Зыход, 32:32 — г.зн., з Кнігі жыцця).

Мы бачым на сцэне пакуты бязмежна адзінокай — нягледзячы на арэол шанавання — душы, і да гэтай адзіноты, да гэтага вечнага неразумення павінен быць падрыхтаваны прарок. Ён павінен таксама ведаць, што сам ён не зробіць ніводнага кроку па зямлі, што цячэ "малаком і мёдам", — Зямлі абетаванай. Яму наканавана памерці па гэты бок Іардана, кінуўшы толькі развітальны погляд на гэтую цудоўную зямлю. Але выканана прызначэнне: яны каля мэты, ніць Абетавання ўручана Ісусу Навіну, і неверагоднае святло разліваецца з расчыненага праёма Сцяны, за якой адкрываецца воку бязмежная панарама залітага сонечным святлом залатога Іерусаліма...

І ўрачыста плывуць, спускаюцца нібыта з нябеснай вышыні над галавамі гледачоў Скрыжалі са старажытнымі пісьмёнамі, з вечнымі словамі — яны заўсёды будуць з намі, патрэбна толькі адкрыць для іх душу... І дзівосна гучаць галасы дзяцей, якія падхопліваюць мелодыю Зыходу — генеральную музычную тэму спектакля (у ім узяў удзел Яўрэйскі дзіцячы камерны хор г.Мінска). Калі ёсць дзеці — ёсць будучыня, і нічога не страчана...

У дзень прэм'еры спектакль працягваўся і ў антракце, і за межамі сцэны: выходзячы з глядзельнай залы, глядач праходзіў праз "пустыні" калідораў, лесвічных пераходаў, фае — "пустыні", якая нечакана поўнілася вобразамі, тварамі, галасамі, (мастацкая выстава беларускіх і ізраільскіх мастакоў і перформанс былі арганізаваны аўтарскай галерэяй "Брама" пад кіраўніцтвам Ларысы Фінкельштэйн).

Без сумнення, спектакль стаў буйной з'явай культурнага жыцця рэспублікі. Рэжысёру, акцёрам, усім удзельнікам і стваральнікам спектакля ўдалося стварыць адчуванне цуду, высокую і светлую атмасферу, якая, нягледзячы на розныя погляды і канфесіі, аб'ядноўвае чалавечыя душы. Гэта спектакль, які гаворыць аб неабходнасці абуджэння нашай душы, неабходнасці і патрэбы ўслухвацца ў дадзенае на ўсе часы Слова:

*"Но человек пред Богом предстает,*
*Слух отверзая в час скорбей и бедствий,*
*И слышит: "Вот он, мир. Вот твой народ.*
*Бери свой посох и за Мною шествуй".*
(К.Михеев. "Исход")

Пастаноўка гаворыць пра лепшае ў нас, пра вечную прагу нашай душы да такога стану свету, калі ажыццявіцца вялікая і простая запаведзь: не забівай. Нездарма менавіта пра гэта ў кароткай прадмове да спектакля гаварыў рэжысёр.

Так, ён цяжкаваты для гледача, ён не зусім звыклы для ўспрыняцця, гэты спектакль. Але ён патрэбны людзям. І дай Бог яму доўгае жыццё, як і тым, хто стварыў яго.

Дзякуй, Тэатр.

ФЭСТ

# ЧАМУ Ж МНЕ НЕ ПЕЦЬ, ЧАМУ Ж НЕ ГУДЗЕЦЬ...

***Песня — гэта душа народа. А калі памкненні душы не маюць выйсця, калі няма таго запаветнага месца, дзе яна магла б разгарнуцца ва ўсю сваю веліч, дзе яе ўбачылі б і зразумелі, то яна проста можа зачаўрэць, як кветка, неаблашчаная позіркам сонца. І людзі даўно тое зразумелі. Са старажытнасці прыйшлі да нас абрадавыя святы, аснову якіх складалі песні. Можна ўспомніць Каляды, Гуканне вясны, Купалле, Дажынкі... Але сучаснасць бярэ сваё — цяперашні чалавек не надта звязаны з зямлёй і цыкламі прыроды. Аднак душу не змяніш і нічым не заменіш. Таму і паўстаюць новыя песенныя святы, нараджаюцца новыя традыцыі, і некаторыя з іх пераходзяць у разрад сталых. Вось ужо больш за 40 гадоў кожнае лета на берагах нябеснай пярліны і цэнтра беларускай вугоршчыны (ад слова вугор) — легендарнай Нарачы — адбываецца вялікі фестываль песні. З розных куткоў Беларусі з'язджаюцца сюды харавыя калектывы, дэманструюць сваё майстэрства і спрабуюць высветліць, хто на гэты раз самы чыста- і моцнагалосы...***



## ШЧУПАК РОТ РАСКРЫВАЕ, А МЫ — СПЯВАЕМ

І гэты год не быў выключэннем. З 5 па 7 ліпеня Нарач прымала гасцей "Пеўчага поля-96" — рэспубліканскага фестывалю харавога мастацтва. На гэты раз прыехалі даволі слынныя калектывы, сярод якіх "Світанак" Лоеўскага РДК, "Спадчына" Маладзечанскага ГДК, народны хор Палаца культуры Мінскага аўтазавода, народны хор вытворчага аб'яднання Смаргонскага аптычнага станкабудавання і іншыя. Усяго больш за дзесятак харавых ансамбляў. Нават былі нашыя "аднапляменнікі" з Беласточчыны —калектыў "Васілёчкі". Дый і журы сабралося прафесарскае: Валеры Аўраменка — дэкан кафедры харавога дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі, Станіслаў Дробыш — загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, Стэла Іванова — дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, Міхаіл Казінец — рэктар Беларускай акадэміі музыкі, Яўген Рэўтовіч загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, а старшынёй быў абраны Міхась Дрынеўскі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага Акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча. Так што нават дождж, які меў намер выліцца на галовы гледачоў, што прыйшлі на адкрыццё свята, спалохаўся і ўцёк у далёкі кут возера Мястра.

А на галоўную пляцоўку Мядзела на поўных ветразях выехаў стылізаваны пад яхту грузавік з гарэзлівымі маракамі, што заспявалі знакамітае "Яблочко" на беларускі манер. І паплылі па плошчы, як па возеры, чайкі — арпанутыя ў блакітныя і беласнежныя сукенкі мясцовыя прыгажуні. А падарылі яны гасцям вялікіх шчупакоў, прыгатаваных па-нарачанску, каб "по щучьему веленью" натхняліся ўдзельнікі на добрыя і вясёлыя спевы. Але спяваць гасцей можна было б і не заклікаць. Спачатку кожны калектыў з задавальненнем і вялікім запалам выканаў сваю любімую песню, а затым усе разам, павыхапіўшы з публікі румяных красунь і статных хлапцоў, пусціліся ў вясёлыя скокі.

## ВАЛОШКІ І "ВЕНИКИ"

Самы насычаны аказаўся другі дзень "Пеўчага поля". Толькі на гэты раз дзея адбывалася ў вёсцы Нарач.

У мясцовым Доме культуры прайшла вялікая конкурсная праграма. Цяпер у выступленнях калектываў не было той гарэзлівасці, якая, нібы подых ветру, раптам аднекуль урывалася ў шэрагі і карагоды хароў на адкрытых пляцоўках. Затое было больш развагі і ашчаднага стаўлення да песні, як да выразніцы танчэйшых нюансаў чалавечых пачуццяў.

Так, вельмі ўразіла выканне народнай песні "За Дунаем" баранавіцкім вакальным ансамблем — асабіста я, сядзеўшы ў цэнтры залы, адчуваў што мяне ахінула і плаўна ўздымае воблака журботна-шчымлівай асалоды.

Вялікае майстэрства выявілі маладзечанцы, асабліва ў сваёй вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі "Купалле".

Добра глядзеліся і прымаліся публікай "Васілёчкі" з Беласточчыны. Народныя беларускія песні гэты харавы калектыў аздабляў не толькі шчырымі ўсмешкамі, але і букецікамі жывых валошкаў, якія пяшчотна трымалі ў сваіх далонях ружашчокія паненкі. Нават па ўсеагульнай просьбе па-за конкурсам была выканана песня на польскай мове, якая найлепей адпавядае беларуска-польскім народна-дыпламатычным стасункам, бо называецца "Не хадзіце, хлопцы, каля граніцы".

Узор акадэмічнага напрамку ў пеўчым мастацтве прадэманстраваў народны харавы калектыў "Менка" Мінскага вучылішча мастацтваў. А жартаўлівая песенька "Веники", якімі ў імклівай скарагаворцы дзяўчаткі-спявачкі літаральна закідалі гледачоў і журы, выклікала і здзіўленне, і захапленне, і шквал апладысментаў, і шкадобу, што мы, беларусы, не маем падобных класічных жартаў на беларускай мове.

І ўсё ж такі конкурсная праграма акрамя станоўчых эмоцый выклікала і расчараванне. Некаторыя калектывы выглядалі дыназаўрамі, бо спявалі, так бы мовіць, слава-слова-блудныя оды і дыфірамбы, выцягнутыя з эпохі сацыялістычнай Беларусі. Нехта з членаў журы з гэтай нагоды нават расказаў цэлую гісторыю, як адзін даволі моцны калектыў на кожным фестывалі заўсёды спяваў "Малую зямлю" — калісьці абавязковы твор для ўсіх хароў. Прыходзіць больш за дзесяць гадоў, а той калектыў усё спявае "Малую зямлю". Тады журы пытаецца, чаму? А кіраўнік адказвае:"Ведаеце, на гэтым творы я магу цудоўна паказаць усе станоўчыя бакі майго ансамбля... А тое што слова састарэлі, дык мы ўжо хацелі новыя напісаць, але неяк не атрымалася..."

Безумоўна, такі падбор твораў не толькі сведчыць пра густы, бо як можна спяваць пра салодкія піражкі, калі хворыя зубы, але і пра рэпертуарны крызіс. Знайсці беларускамоўную класічную і, галоўнае, змястоўную кампазіцыю даволі складана. І тут ой якое вялікае поле дзейнасці для нашых кампазітараў!

Па заканчэнні асноўнай конкурснай праграмы ў Андрэеўскім касцёле вёскі Нарач адбыўся вялікі канцэрт Дзяржаўнага Акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча. Немагчыма апісаць тыя пачуцці, якія ўзнікаюць, калі раптам аказваешся ў эпіцэнтры велічнай гармоніі, калі бачыш, з якой самаадданасцю, прафесіяналізмам і любоўю да мастацтва дырыжыруе народны артыст Рэспублікі Беларусь Міхась Дрынеўскі, калі твае ўласныя душэўныя струны самі падпадаюць пад уладу гукаў, што нараджаюцца ад узмахаў ягоных рук.

У той жа дзень позна вечарам на беразе возера Мястры ўсімі ўдзельнікамі "Пеўчага поля" святкавалася Купалле. Праўда, напярэдадні прайшоў моцны дождж, але хто хацеў пакупацца, паспяваць, павесяліцца, таму надвор'е зусім і не зашкодзіла.

## ЧОРНЫЯ ВОЧЫ ЛУІ АРМСТРОНГА

Трэба сказаць, што фестываль "Пеўчае поле — 96" стаў для мясцовых жыхароў і тых, хто адпачывае на берагах Нарачы, сапраўдным народным гулянием, аб чым сведчыць поўная зала нарачанскага Дома культуры, купкі людзей, што на лаўках, на выносных крэслах, а хто і проста на траве, размяшчаліся перад артыстамі, калі тыя спявалі на адкрытых пляцоўках. Раздавалася "брава", настройныя галасы падпявалі прыпевы, чуліся жарты і смех. Здавалася, вось-вось канцэрт перарасце ў карнавал. Нават падчас незапланаванага перапынку, выкліканага тым, што Дзяржаўны народны хор імя Цітовіча з тэхнічных прычын затрымаўся ў дарозе, гледачы не разыходзіліся. На вуліцы грала музыка. Людзі танцавалі як народныя танцы, так і сучасныя. А калі ў калонках, што былі пастаўлены на плошчы, загучалі "Очи черные" ў выкананні Луі Армстронга, не вытрымала і пусцілася ў скокі прэса. Бо журналістам таксама "ничто человеческое не чуждо".



У другі дзень народнае гулянне толькі спрабавала свае сілы, напоўніцу яно разгарнулася ў трэці дзень, на беразе Нарачы...

## ДРУЗ НАРАЧАНСКАЙ ЗДРАЎНІЦЫ

Але паміж фестывальнымі праграмамі аргкамітэт і дэлегацыя прэсы знаходзілася ў гатэлі "Нарач", які стаіць у чароўным па сваёй прыгажосці месцы.

Вось менавіта месца пакуль што і застаецца асноўнай перавагай гэтага гатэля. Бо як толькі падыходзіш да шэрага высокага будынка, у вочы трапляе жалезны каркас рассыпанай ад старасці бетоннай лесвіцы, якая калісьці вяла на пляцоўку над рэстаранам. Дый знутры ўстанова адпачынку больш падобная да інтэрната якога-небудзь не вельмі багатага мінскага прадпрыемства. Адзін санвузел на два пакоі, празрыстыя для любога шуму сцены. І калі тваім суседам аказваецца сям'я з маленькім дзіцём, то можна смела лічыць, што твой адпачынак, мякка кажучы, не адбыўся. Проста дзіву даешся, што цягне людзей плаціць вялікія грошы за тое, каб правесці паўтара-два тыдні ў такіх умовах. Праўда, трэба адзначыць адносную чысціню ў пакоях, калідорах, рэстаране.

І яшчэ, тым, хто ўсё ж мае намер паехаць у гасцініцу "Нарач" паадпачываць, раім карыстацца выключна ліфтамі, а не спускацца з верхніх паверхаў пешкі. Бо ў адваротным выпадку, можна застацца без галавы. Пралёт на першым паверсе лесвіцы так нізка навісае над самімі прыступкамі, што нават мне, з ростам 1 метр 76 сантыметраў, даводзілася нахіляцца. А ўявіце сабе няштатную сітуацыю, калі, не дай Бог, усім жыхарам гатэля прыйдзецца спешна эвакуіравацца...

Па ўсім відаць, што гэтае дзіва сацыялістычнага турызму пабудавана паводле прынцыпу "ай, і так сойдзе"... Але ж цяпер хочацца верыць, што прыйшлі часы, калі ўсё робіцца не для галачкі ў паперцы, а для чалавека, і што здаровая канкурэнцыя дапаможа гатэлю знайсці сапраўднага гаспадара, які давядзе ўсё да ладу. Без дабраякасных умоў пражывання развіццё турызму і фестывальнага руху немагчымае...

Ну, а сёлета журналісты хаваліся ад бытавых недарэчнасцяў на беразе возера ці на мерапрыемствах "Пеўчага поля", якія ішлі сваім шляхам далей.

## СЦЯГ НАД АБЕЛІСКАМ

Раніцай 7 ліпеня пасля ўрачыстага шэсця ўдзельнікі фестывалю ўсклалі кветкі да абеліска беларускім партызанам Вялікай Айчыннай вайны. Там жа аўтаматнымі стрэламі ў паветра была ўшанавана памяць паўшых герояў, сказаны ўрачыстыя прамовы, узняты сцяг...

І ўсё, здаецца, так было і павінна быць... Але пракралася "няправільная" думка:"А навошта перад абеліскам узнімаць сцяг? Вельмі ж гэта нагадвае піянерскую лінейку... Ці, калі сцяг узняты, значыць, памяць ушаноўваць можна, а калі сцяга на флагштоку няма, то і памяці няма?.."

Аднак канцэрт зводнага хору перапыніў міжвольныя развагі пра камуфляжнасць і пэўную штучнасць афіцыёзу. Мастацтва само па сабе нясе ачышчэнне, яно ўвасабляе і адлюстроўвае эмоцыі і перажыванні, якія накапіліся ў душах людзей. І нішто лепей за мастацтва выразіць гэта не можа.

Свята зноў пайшло па сваім рэчышчы. Харавыя калектывы пасля выступлення на галоўнай арэне маглі выступіць на дальняй лясной пляцоўцы, так бы мовіць, бліжэй да народу. А народу... публікі прыйшло тысячы тры, і ніхто з іх не быў супраць паўдзельнічаць у святочным гулянні, паслухаць і папладзіраваць гасцям, да якіх у апошні дзень дадаўся нават хор і аркестр зямлі Мехікале з Фінляндыі.

На заканчэнне фестывалю яго ўдзельнікі былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі і сувенірамі — карцінамі з Нарачанскімі пейзажамі, напісанымі мясцовым мастаком Барысам Пястуном. Лаўрэатамі фестывалю (трэццяе і другое месца адпаведна) сталі народны хор аграфірмы "Вясна" і РБУ "Зелянбуд" г.Віцебска і народны ансамбль песні і танца Баранавіцкага ГДК, а пераможцам (першае месца) быў вызначаны народны ансамбль песні і танца "Спадчына" Маладзечанскага ГДК.



Начальнік упраўлення Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі выказаў словы ўдзячнасці ўсім арганізатарам фестывалю, работнікам аддзела культуры райвыканкама, а таксама тым людзям, што зрабілі важкі ўнёсак у свята: работнікам гандлю, кіраўнікам калгасаў, прадпрыемстваў, здраўніц. І запэўніў, што фестываль "Пеўчае поле" будзе шырыцца і стане агульнанацыянальным фестывалем, які аб'ядная тысячы і тысячы людзей у іх любові да песні.

Што ж, бывай, "Пеўчае поле-96", няхай жыве "Пеўчае поле-97", і жыве шчасліва...

**Серж МІНСКЕВІЧ**



*На здымках: хор Мінскай мастацкай вучэльні ў Андрэеўскім касцёле в. Нарач; госці з Фінляндыі; выступае зводны хор; кіраўнікі калектываў пасля падвядзення вынікаў.*

**Фота Андрэя ВАШКЕВІЧА**

УРАЖАННІ

# ПАМЯЦІ СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

*Сваю маладосць прысвяціў*
*ён навукам і цноце,*
*Век сталы ён мужна пражыў*
*у няспынных цярпеннях.*
*Любоў да сяброў і да Бога —*
*істоты яго была зместам.*
*Цяжкое жыццё яго ўсё —*
*да збавення дарогай.*
*Імя яго злучана будзе навекі*
*ў айчыне*
*З Адамам Міцкевічам*
*і Томашам Занам.*
*Хто ведае іх, перад каменем*
*гэтым схіліся,*
*Падумай, ўздыхні і за ўсіх*
*траіх памаліся.*

Варта было пражыць жыццё толькі дзеля таго, каб сябра на тваім надмагільным камяні напісаў такія словы. Гэты тэкст паэт Адынец прысвяціў Яну Чачоту. Сёлета споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння паэта, збіральніка і папулярызатара фальклору, перакладчыка і даследчыка еўрапейскай літаратуры, драматурга, краязнаўцы і вандроўніка.

Ён нарадзіўся 17 ліпеня 1796 года ў засценку Малюшыцы былога Навагрудскага павета (зараз Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці). Вучыўся ў Навагрудку, Віленскім універсітэце. За кіраўніцтва таварыствам філаматаў у 1823 годзе быў арыштаваны і асуджаны на 10-гадовае выгнанне. Працаваў у Шчорсах — у нацыянальнай скарбніцы — бібліятэцы Храптовіча. Збіраў і выдаваў народныя песні з берагоў Нёмана, Дзвіны і Дняпра. Памёр у крайняй беднасці ад туберкулёзу 11 жніўня 1847 года ў Друскеніках. У шасці зборніках надрукаваў каля ста беларускіх народных песень.

На радзіме фалькларыста прайшлі ўрачыстыя святкаванні юбілею. Так, у Карэлічах адбылося ўрачыстае адкрыццё бюста аднаму з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Карэліцкая зямля багатая на таленты, сярод імёнаў варта прыгадаць Уладзіслава Сыракомлю, Янку Запрудніка, Вінцэся Каратынскага, Янку Брыля, Вольгу Іпатаву, Анатоля Жука...

Падчас свайго выступлення на адкрыцці бюста Яна Чачота Янка Брыль падкрэсліў, што нават у самыя змрочныя часы, калі народ хацелі пазбавіць мовы і гісторыі, ён усё роўна спяваў, смяяўся з анекдотаў, выказваў сваю мудрасць у прыказках і прымаўках, і рэдка ў якога народа ёсць такая ж скарбніца. Душа Яна Чачота дзялілася на тры народы: беларускі, польскі, літоўскі. І помнік на яго Радзіме сведчыць пра тое, што перамагае гістарычная праўда. Вольга Іпатава адзначала, што ў гісторыі чалавецтва прайшлі многа народаў, пачынаючы ад хетаў, асірыйцаў, пра іх мы ведаем дзякуючы творам мастацтва, якія яны пакінулі пасля сябе, і ад кожнага з нас залежыць, якім будзе ў гісторыі наша слова. Якія б буры, навальніцы ні праносіліся, вядомая паэтка заклікала рабіць як Ян Чачот, які можа і не верыў у тое, што ў гісторыі застанецца яго імя, і проста працаваў дзеля свайго народа. Да бюста былі ўскладзены кветкі. Выступала вакальная група музычнай школы. Свята працягвалася ў Малюшыцкай школе, дзе ўважліва вывучаюць спадчыну славутага земляка. Каля школы быў наладжаны канцэрт з удзелам фальклорных калектываў, аркестрам. Асабліва ўразіў верш, прачытаны вучнем школы Сашам Гацкім, які быццам пераўвасобіўся ў Яна Чачота і ўпэўніў усіх, што калі вырасце, то таксама будзе паэтам. Удзельнікі свята спявалі і танчылі на вуліцы, якая ўжо атрымала імя Яна Чачота. Падчас святочнага шэсця можна было праехаць на сапраўднай цыганскай арбе.

На шырокай паляне адбыўся вялікі канцэрт з удзелам прафесійных і самадзейных гуртоў. Тут жа быў наладжаны кірмаш, на якім выстаўлялі свае творы майстры Карэліччыны. Трэці раз з гэтай зямлёй сустрэўся рэжысёр-пастаноўшчык свята Мікола Макарцоў. Ён быў рэжысёрам на святах 500-годдзя Мірскага замка, 600-годдзя Карэліч. Часта звяртацца да гэтых мясцінаў вядомага рэжысёра прымушае тое, што тут, на яго думку, не толькі захаваліся сапраўдныя культурныя пласты, але мастацтва існуе ў сэрцах сучаснікаў.

**Лесь ТУР**



# ПОМНІК ЯНУ З НОВАЙ МЫШЫ...

Удзячныя нашчадкі з Баранавіцкага раёна паставілі слыннаму асветніку, паэту і драматургу помнік ля яго любімай ракі. Слова на ўрачыстасцях мелі старшыня Баранавіцкага райвыканкама



Валерый Раінчык, загадчык райаддзела культуры Іван Абрамовіч, дырэктар мясцовай школы і краязнаўца Васіль Дубейка, суродзічка і спадчынніца класіка беларускай літаратуры Алеся Гаруна, таленавітая самадзейная паэтка Браніслава Лапкоўская-Прушынская і аўтар гэтай карэспандэнцыі. Для новамышан і гасцей была зроблена выстава твораў Яна Чачота і кніг пра яго, паказана літаратурна-музычная кампазіцыя.

Ён да скону свайго жыцця абраў дэвізам словы: "Шчасце — гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека; шчасце — ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту; асабістае шчасце — у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць і дабро ўласнае".

Выдатны беларускі вучоны і паэт Алег Лойка пісаў пра Яна Чачота: "... нарадзіўся... ў засценку Малюшыцы Навагрудскага павета. Каля 1806 г. сям'я пераехала ў ваколіцы Новай Мышы ля Баранавіч. Над маляўнічай Мышанкай, недалёка да Калдычэўскага возера і Свіцязі рос будучы паэт, які любіў падпісвацца "Ян з Новай Мышы".



**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства,**
**г.Баранавічы.**
**Фота Міхаіла КАШКО**

# НА ШЛЯХУ ДА ВЯРШЫНІ

У менскім клубе "Эдвін" адбыўся сольны канцэрт гурта "Вершина", аднаго з вельмі нешматлікіх у нас калектываў, якія прафесійна выконваюць арт-рок. Імпрэза, арганізаваная з дапамогай менеджэрскіх здольнасцей карыфея мясцовай рок-тусоўкі Дзмітрыя Эпштэйна, не апынулася, аднак, у цэнтры ўвагі самой гэтай тусоўкі. Што і нядзіўна, бо арт-рок у нас, здаецца, ніколі асабліва не шанавалі. Зрэшты публікі было даволі, і ўсё, што адбывалася на сцэне, яна збольшага ўпадабала. Пад канец, калі некалькі музыкантаў "Вершины" выконвалі зусім не артрокавыя хіты "Нірваны" і г.д., амаль усе прысутныя нават танчылі.

Увогуле музыка гурта адметная тым, што, нягледзячы на сваю вытрыманасць у традыцыйным ключы, яна, тым не меней, не з'яўляецца бляклай копіяй творчасці знакамітых папярэднікаў. А выконваюць яе, дарэчы, не саракагадовыя салідныя дзядзькі, сярод якіх найбольш прыхільнікаў арт-рока, а зусім маладыя хлопцы, і значная частка песень напісана не па-ангельску, а на расейскай мове, роднай для музыкантаў. Дзякуючы гэтаму яны выглядаюць значна больш натуральна.

**Г.С.**

# Я ЛЮБЛЮ МІНСК!

## Занатоўкі святочнага дня

Сцверджанне, прыведзенае ў назве найбуйнейшага гарадскога свята сталіцы, можна, у прынцыпе, і аспрэчыць. Я не люблю Мінск, калі на ягоных вуліцах поўна пустых бутэлек, бітага шкла і ўсялякага іншага смецця. Зрэшты ўсё гэта, як гаворыцца, "издержки" свята, а без іх, як вядома, аніяк. Тым больш што свята — здзейснілася.

Традыцыя святкавання своеасаблівага дня горада настолькі даўняя і паўсюдная, што нават цяжка ўзгадаць, калі і дзе яна распачалася. Мабыць, яшчэ за дзедам-шведам, як той кажа, нашыя продкі адзначалі нейкія даты, звязаныя з родным местам. Дарэчы, адносна датаў. Яшчэ зусім нядаўна гарадское свята было прызначана на дзень вызвалення Беларусі, але сёлета чамусьці супала з Купаллем (мабыць, таму, каб замест двух святаў атрымалася адно, але вялікае). Аднак гэтая блытаніна, безумоўна, аніяк не паўплывала на настрой саміх мінчукоў. Бо святы наш народ, як вядома, любіць, а з якой яны нагоды — не так ужо і важна. Абы хоць на дзень адарвацца ад не надта, мякка кажучы, прывабных рэалій сённяшняга дня. І ўлады гэтае народнае памкненне разумеюць, і таму святаў у нас больш як дзе.

Сёлетняе святкаванне Дня горада прайшло надзвычай шырока, нават, бадай, пампезна. Канцэрты і іншыя забаўляльныя мерапрыемствы адбываліся ажно на шасці пляцоўках. Баляванне падчас чумы? Хто яго ведае? Тым больш, што на некаторых з гэтых пляцовак колькасць выступоўцаў ці не перавышала колькасць гледачоў. Сапраўды, мінчукі чамусьці паставіліся да магчымасці культурнага адпачынку з пэўнай перасцярогай, яўна аддаючы перавагу адпачынку, які культурным не назавеш. Гэта я да таго, што найбольш людзей сабралася не на канцэрты, а на тое, што ім наступствавала — усеагульную паўп'яную вакханалію, якая чамусьці супала па часе з найцудоўнейшым народным святам — Купаллем.

Нязменным цэнтрам святаў стала, бясспрэчна, пляцоўка каля Палаца спорту. Менавіта сюды прыехаў дзеля сустрэчы з людам паспалітым кіраўнік нашай дзяржавы. Неўзабаве пасля гэтай працэдуры пачалася бадай самая арыгінальная частка святочнай праграмы — свята піва пад надзвычай актуальным для спякотнага летняга дня назвай "Смага-96".

Задуму правесці ў нас нешта падобнае інакш як смелай не назавеш. Асабліва калі ўлічыць, ува што падобнае свята магло б выліцца, зважаючы на ўзровень нашай культуры распіцця спіртных напояў. Аднак прайшло ўсё надзіва ўдала і, што самае галоўнае, без асаблівых эксцэсаў. Прынамсі, п'яных я нават і не бачыў. Пад гукі самай рознай музыкі (ад рока да вялікага эстраднага аркестра), якія даносіліся ажно з трох сцэн адразу, мінчукі мелі магчымасць паўдзельнічаць у самых розных спаборніцтвах, прызамі ў якіх нязменна было піва. Напрыклад, пастраляць у ціры альбо паспрабаваць перамагчы ў перацягванні каната. Сумнавядомыя гісторыі з пошукамі бомб і мін там, дзе толькі магчыма, займелі на свяце своеасаблівы жартаўлівы адгалосак. Змакрэлыя ад поту жаўнеры бясплённа бараздзілі зямлю, а вось узброеныя мінашукальнікам дзяўчаты знаходзілі адну закапаную бутлю піва за другой. Запомніліся таксама "камандныя" спаборніцтвы



паміж гуртамі "Ляпис Трубецкой" і "Нейро Дюбель", у якіх першыя перамаглі з ганебным для супернікаў лікам 5:0.

Тыя, каму ўдзельнічаць у падобных забавах не хацелася альбо было проста лянотна, маглі паслухаць жарты ў выкананні тэатра "Хрыстафор" ці ўвогуле залегчы на траўцы з пляшкай старадаўняга напою самых лепшых на Беларусі гатункаў. Да апошніх на нейкі час далучыўся і я, каўтануўшы кубак піва за здароўе лідэра партыі яго аматараў Андрэя Рамашэўскага. Менавіта яму падобнага свята тады вельмі не хапала.

Такога ажыўлення, якое назіралася каля Палаца спорту, на іншых пляцоўках не было. Увогуле дзіўна, што цудоўна арганізаванае свята горада было збольшага праігнараванае яго насельнікамі. Мінск жыў сваім звычайным жыццём, нягледзячы на ўсе намаганні арганізатараў неяк гэтае жыццё разнастаіць.

А намаганні гэтыя прыкладаліся сапраўды вялізарныя. Але, не зважаючы ні на іх, ні на цудоўны настрой удзельнікаў піўных баталій, надвор'е было, мякка кажучы, дастаткова капрызным. А калі больш дакладна — у самы разгар свята, прыблізна а сёмай гадзіне вечара, хлынуў дождж. Дый і не абы які — сапраўдны лівень з навальніцай. Дождж не толькі загнаў мінчукоў пад "грыбкі"-парасоны і ў падземныя пераходы, але і зрабіў немагчымым правядзенне большасці канцэртаў, бо хлынуў ён якраз у той час, калі гэтыя канцэрты меліся адбывацца. Першыя хвіліны выступоўцы яшчэ рабілі выгляд, што ўсялякія гарэзлівыя жарты надвор'я іх абыходзяць, але неўзабаве стала зразумела: надвор'ю не да жартаў, і давялося спешна згортваць апаратуру. Не адбылося з-за гэтай жа прычыны і оперы "Дзікае паляванне караля Стаха", паказ якой планаваўся ў Траецкім прадмесці.

Урэшце дождж скончыўся, і бліжэй да ночы на пляцоўцы каля Палаца спорту стала з'яўляцца ўсё больш і больш людзей. Скончылася даволі просценькая дыскатэка і пачалося Купалле. Як можна святкаваць Купалле — свята прыродных сіл — у самым цэнтры горада Мінска, сказаць цяжка. Безумоўна, можна запрасіць фальклорныя калектывы, прыдумаць нейкія стылізаваныя пад фальклор немудрагелістыя забаўкі. Але наўрад ці ўсё гэта будзе нечым хаця б падобным да аўтэнтычнага святкавання, тоесным самой яго ідэі. Зрэшты, добра хаця б тое, што масавыя гульбішчы прымяркоўваюцца да народных беларускіх святаў, а не да якога-небудзь Дня пажарніка альбо вадалаза.

Даволі позна, прыблізна а другой гадзіне ночы, прагрымелі феерверкі. Адзін — над узбярэжнай Свіслачы, дзе наўпрост на вадзе была збудаваная эстрада, а другі — каля Палаца спорту. Атрымалася на гэты раз даволі ўражліва. Можа быць, беларускія піратэхнікі і не самыя лепшыя ў свеце, але справу сваю ведаюць.

Прыблізна а трэцяй гадзіне шоу-праграмы ўрэшце скончыліся, скончылася таксама і піва, і народ стаў пакрысе расцякацца па дамах, пакідаючы пасля сябе дарэшты забруджаную ўсім, чым толькі магчыма, пляцоўку, але беручы з сабой добры настрой. Настрой сапраўды быў даволі ўзнёслым. Па-мойму, годны фінал для любога свята.

**Гальляш СЬВІРЫН**

*На здымку: свята ля Палаца спорту.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА**

ЮБІЛЕЙ

# НЕПАРАДНЫ ПАРТРЭТ

## Зацемкі з нагоды юбілею

* * *

Прыехала неяк даўно да мяне ў госці глуханямая пляменніца. Яна яшчэ толькі прывыкала да слыхавога апарата. Я павёз яе ў Хатынь. Яна глядзела на мёртвую вёску і раптам спытала (сяк-так яна ўжо гаварыла):

— Што гэта так вые?

— Вецер, — адказаў ёй пажылы мужчына, які апынуўся побач. Гэта быў архітэктар з Расіі, былы франтавік. І распавёў такую гісторыю. Вызвалілі яны ў Беларусі разбітую спаленую вёску. Пры месяцы на фоне светлага начнога неба жахліва вылучаліся коміны печаў, вылі сабакі, звінела бляха...

— Я запамятаў тую вёску на ўсё жыццё, і ўсё жыццё хацеў яе такой зрабіць, каб людзі ніколі не забывалі вайну і каб ніколі болей не ваявалі. І вось я пабачыў тое, што марыў зрабіць — Хатынь.

А я яшчэ раз згадаў пра Леаніда Левіна і расказаў пра яго пляменніцы.

* * *

— Дзеля чаго вы з'явіліся на свет?

— Каб жыць.

— Што для вас найкаштоўнае?

— Дзеці.

— Што вы любіце?

— Людзей.

— Што баіцеся страціць?

— Памяць.

Так у адным са старажытных плямёнаў пасвячалі ў воіны. Левіна прынялі б без экзамена, калі б пабачылі ягоныя мемарыялы.

Мы сядзелі, размаўлялі, даўно не бачыліся, але пілі толькі чай, і гэта не віна гасціннага дома і мілай Наташы: гэта цяпер наша з Леанідам змушаная неабходнасць. Успаміналі сустрэчы ў іх новай, тады адзінай такой майстэрні, дзе яны даводзілі "Хатынь". Якая тройца была, і мы якія маладыя! Вось тады быў не толькі чай. Хлопцы называлі Лёню камісарам і з павагаю прафесійнікаў казалі пра яго. Хіба ведалі яны тады, што хатынскія званы стануць для ўсёй Зямлі сімвалам шматпакутнай Беларусі, а яны — маладыя, вясёлыя, іранічныя і вельмі таленавітыя — будуць першымі лаўрэатамі Ленінскай прэміі на сваёй Бацькаўшчыне.

— Чаму большасць тваіх прац прысвечана вайне?

Ён перастаў усміхацца. І доўга маўчаў, машынальна гладзіў невялічкага сабаку з адданымі чалавечымі вачыма. Сабака гэты з'явіўся ў доме два гады таму. Левіны не змаглі пакінуць яго аднаго: памерла гаспадыня. Да гэтага часу ў доме сабак не было. "І зараз няма: яна куды большы чалавек, чым некаторыя людзі, якія сустракаліся мне ў жыцці. Дзякаваць Богу, што іх было няшмат".

Ён сядзеў, лашчыў сабаку, маўчаў — дзе быў у тыя імгненні? Сярод комінаў Хатыні? Ля паміраючай ад голаду маці? Гэта было ў 44-м у Кіргізіі ў Кара-Балты. Хлопчыку восем гадоў... А можа, успамінаў, як праз год, у 45-м, шчасліва знайшоў яго бацька, сапёр, які адваяваў дзве вайны, з Германіяй і Японіяй, двойчы паранены, але жывы. А можа, згадваў сустрэчы з разбураным родным Мінскам.

— Людзі жылі ў зямлянках, паўгалодныя, працавалі суткамі. У такіх умовах аднаўлялі Мінск. Магчыма, тады і з'явілася мара стаць архітэктарам. Калі б я ствараў генплан пасляваеннага Мінска, я пачаў бы яго з пантэона загінуўшым салдатам. З мармуру і золата трэба было будаваць гэты пантэон, і ад яго разгортваць горад. Мы не змаглі зрабіць гэта тады — трэба аддаваць доўг сёння. Як магу — аддаю...

Каля 30 помнікаў героям-камсамольцам на дарогах рэспублікі. Гастэла каля Радашковіч, "Кацюша" ў Оршы, Феня Кананава, падпольшчыкі Асінторфа...

Янка Купала ў Мінску, "Прарыў" ля Ушачаў, мемарыял "Загінуўшым салдатам" у Бухары, салдатам Корсунь-Шаўчэнкаўскага пабоішча ў Ізюме, Мыцішчы пад Масквой... Беларусь, Украіна, Узбекістан, Расія.

Праспекты Скарыны і Машэрава, плошча Незалежнасці, помнік дзецям, якія загінулі ў вайну...

* * *

Успамінаю і пішу не біяграфію, а мае ўражанні. Яны не патрабуюць ні храналогіі, ні пераліку, ні каталогаў. Але было б несправядліва не сказаць пра тое, што ўжо многа гадоў заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь Леанід Левін з'яўляецца прэзідэнтам Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын. І рытм, у якім ён жыве гэтыя гады, можна назваць бязлітасным. Той, хто прабудзе сёння з ім пару гадзін, наўрад ці паверыць, што Левіну — 60.

* * *

Я даўно яго ведаю. І даўно ведаю, што ён — з'ява не з агульнага шэрага. Іначай не было б такой ягонай творчасці. Але ёсць рыса ў ягоным характары, якая сустракаецца далёка не ва ўсіх таленавітых архітэктараў і не архітэктараў, прэзідэнтаў і не прэзідэнтаў. Магчыма, гэта не прыроджаная якасць, а мудрыя ўрокі жыцця — ён умее дараваць. Гэта мне падабаецца.

* * *

Цудоўны мог бы атрымацца парадны партрэт. Праўда, няма ў Левіна ордэнаў. Неяк так атрымалася, што няма іх. Я пра гэта даведаўся са здзіўленнем. А я думаў... Ды якая розніца, што я думаў. Няма і не трэба. Затое чаго вартыя адны толькі лічбы і факты... 36 гадоў творчага жыцця — удзел у 54 конкурсах усіх "рангаў" і — 29 перамог. Больш за 50 ажыццёўленых сур'ёзных архітэктурных праектаў, больш за 100 створаных. Многія работы былі зроблены супольна з Юрыем Градавым, Валянцінам Занковічам, Анатолем Анікейчыкам і Сяргеем Селіханавым.

Я згадваю "Размову з Богам" Эмануіла Казакевіча: пісьменнік прасіў даць яму яшчэ пяць гадоў жыцця, каб паспець пакінуць на аблiччы часу след сваёй далоні. Леанід Левін, чыё жыццё лёс тройчы працягваў, кожны раз апраўдваў яго давер: ён будаваў на зямлі маўклівыя, суровыя, цудоўныя помнікі Людзям, Дзецям, Жыццю — Памяці.

Апошняя праца — Гран-пры на Беларускім аглядзе-конкурсе на лепшы праект і пабудову года — мемарыял у Маладзечне "Шталаг — 342". 40 тысяч людзей розных нацыянальнасцяў, якія загінулі ў няволі, 226 брацкіх магіл.

... Стаіць бетонны барак, атачаны камянямі. На кожным — лічба: нумар магілы. Вы ўваходзіце ў дом смерці — перад вамі роў... Тут... Тонкі масток вядзе вас праз смерць да лесвіцы жыцця, да неба над баракам: страхі няма, замест яе — краты, толькі ў адным месцы яны праламаныя... Да жыцця, на волю! Пайшлі адзінкі. Але жыццё працягваецца!

Гэта не проста архітэктура, не проста манумент — гэта філасофія сродкамі мастацтва. Каб так працаваць, трэба самому "гарэць" з хатынцамі, быць "забітым" у шталагу — 342, ісці "на прарыў" з ушацкімі партызанамі... Акрамя дару творчасці трэба займець дар чалавечага суперажывання, і тады, толькі тады вы зможаце ажывіць бронзавую дзяўчынку на сталінградскім "Салдацкім полі" і адухавіць Траецкае прадмесце.

Так працуе адзін са стваральнікаў манументальнай беларускай эпапеі — Леанід Левін.

— Наташа, што Вы зычыце мужу ў дзень юбілею?

— Здароўя і мужнасці.

Напэўна, да гэтага цяжка штонебудзь дадаць.

... Да дзвярэй ягонага дома мяне праважаў сабака з чалавечымі вачыма.

**Навум ЦЫПІС**



















*На здымках:*

*Мінск. Траецкае прадмесце.*

*Мінск. Праект Палаца шлюбаў.*

*Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Леанід Левін.*

*Ушачы, Віцебская вобл. Помнік беларускім партызанам "Прарыў".*

*Бухара. Помнік воінам-бухарцам, якія загінулі ў час вайны.*

*Мінск. Помнік Янку Купалу.*

*Анатоль Анікейчык, Леанід Левін, Юрый Градаў. Пачатак будаўніцтва помніка Я. Купалу.*

*Пасол Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь Эліяху Валк і Леанід Левін. Фестываль у Гродне.*

*Уручэнне Ленінскай прэміі, 1970 г.*

*Па шляху да славы.*

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**